


Пролетары ўсіх краёў, злучайцеся!


ПРАЦЫ БЕЛАРУСКАГА НАВУКОВА-ДАСЬЛЕДЧАГА ІНСТЫТУТУ СЕЛЬСКАЕ і ЛЯСНОЕ ГАСПАДАРКІ імя Ў. І. ЛЕНІНА пры СНК БССР

Т. XVI ЦЭНТРАЛЬНАЯ БУЛЬБЯНАЯ СТАНЦЫЯ Вып. 1.



Н. Д. ДАНОВІЧ і
Ф. Х. КРЫНКІНА


# К ПАРАЎНАЛЬНАЙ ГІСТОЛЁГІІ ВЭГЕТАЦЫЙНЫХ ВОРГАНАЎ НЕКАТОРЫХ РАНЬНІХ, СЯРЭДНІХ І ПОЗЬНІХ ГАТУНКАЎ БУЛЬБЫ


ТРУДЫ

БЕЛОРУССКОГО НАУЧНО-ИССЛЕДОВАТЕЛЬСКОГО ИНСТИТУТА СЕЛЬСКОГО и ЛЕСНОГО ХОЗЯЙСТВА имени В. И. ЛЕНИНА при СНК БССР



Н. Д. ДАНОВИЧ и
Ф. Х. КРИНКИНА


К СРАВНИТЕЛЬНОЙ ГИСТОЛОГИИ ВЕГЕТАТИВНЫХ ОРГАНОВ НЕКОТОРЫХ РАННИХ, СРЕДНИХ И ПОЗДНИХ СОРТОВ КАРТОФЕЛЯ


BULLETIN

OF THE WHITE RUSSIAN LENIN'S INSTITUTE OFSCIENTIFIC RESEARCH OF AGRICULTURE AND FORESTRY AT THE SOYIET OF PEOPLE'S COMMISSARIES OF WRSSR.



N. D. DANOVICH
and F. CH. KRINKIN


ON THE COMPARATIVE HISTOLOGIE OF SOME EARLY—, MIDDLE—AND LATE POTATO SORTS VEGETATIVE ORGANS.


МЕНСК — MINSK

1929 г.

Пролетары ўсіх краёў, злучайцеся!

ПРАЦЫ БЕЛАРУСКАГА НАВУКОВА-ДАСЬЛЕДЧАГА ІНСТЫТУТУ СЕЛЬСКАЕ і ЛЯСНОЕ ГАСПАДАРКІ імя Ў. І. ЛЕНІНА пры СНК БССР

Т. XVI ЦЭНТРАЛЬНАЯ БУЛЬБЯНАЯ СТАНЦЫЯ Вып. 1.

Н. Д. ДАНОВІЧ і
Ф. Х. КРЫНКІНА

# К ПАРАЎНАЛЬНАЙ ГІСТОЛЁГІІ ВЭГЕТАЦЫЙНЫХ ВОРГАНАЎ НЕКАТОРЫХ РАНЬНІХ, СЯРЭДНІХ і ПОЗЬНІХ ГАТУНКАЎ БУЛЬБЫ





ТРУДЫ
БЕЛОРУССКОГО НАУЧНО-ИССЛЕДОВАТЕЛЬСКОГО ИНСТИТУТА СЕЛЬСКОГО и ЛЕСНОГО ХОЗЯЙСТВА имени В. И. ЛЕНИНА при СНК БССР

Н. Д. ДАНОВИЧ и
Ф. Х. КРИНКИНА

К СРАВНИТЕЛЬНОЙ ГИСТОЛОГИИ ВЕГЕТАТИВНЫХ ОРГАНОВ НЕКОТОРЫХ РАННИХ, СРЕДНИХ И ПОЗДНИХ СОРТОВ КАРТОФЕЛЯ

BULLETIN
OF THE WHITE RUSSIAN LENIN'S INSTITUTE OFSCIENTIFIC RESEARCH OF AGRICULTURE AND FORESTRY AT THE SOYIET OF PEOPLE'S COMMISSARIES OF WRSSR.

N. D. DANOVICH
and F. CH. KRINKIN

ON THE COMPARATIVE HISTOLOGIE OF SOME EARLY—, MIDDLE—AND LATE POTATO SORTS VEGETATIVE ORGANS.

МЕНСК — MINSK
1929 г.



*Прысьвячаем гэтую працу нашаму паважанаму настаўніку Язэпу Рыгоравічу Васількову.*

*Аўтары.*

Н. Д. Дановіч і Ф. Х. Крынкіна.
Навуковыя працаўнікі Н. Д. I.

# Да параўнальнае гісталёгіі вэгэтацыйных органаў некаторых раньніх, сярэдніх і позьніх гатункаў бульбы.

У расійскай літаратуры дагэтуль не зварочвалі, або амаль што не зварочвалі ўвагі на анатомію бульбы, ня гледзячы на ўсё значэньне гэтае расьліны для нашага Саюзу. Праца Букасава, якая зьявілася ў 1925 г., дае нам апісаньне галоўным чынам морфолёгіі бульбы (яе розных гатункаў) спыняючыся коратка на анатоміі бульбіны. У іншакраёвай літаратуры і больш за ўсё ў нямецкай мы знаходзім больш поўнае выкладаньне анатоміі органаў бульбы. Адным з першых, хто займаўся вывучэньнем анатоміі бульбяное расьліны, быў Шахт (Schacht). (У Esmarch'a ст. 161). Ён вывучаў галоўным чынам бульбяныя хваробы і адпаведна гэтаму спыняўся ў сваім вывучэньні на анатоміі некаторых ворганаў бульбы. Крыху падрабязьней вывучае будову бульбы Sorauer. (У Esmarch'a ст. 161-162). Ён апісвае разьвіцьцё сьцябла, лісьцяў, сталёнаў і маладых бульбінак да самага дасьпяваньня расьліны, колькасьць у розных тканках крухмалю, бялку ды іншага. Досыць падрабязна спыняецца на будове бульбіны, у той час як будову ліста і кораню закранае коратка. Далейшае сваё разьвіцьцё вывучэньне органаў бульбы атрымлівае ў клясычнай працы De-Vries'a (1878 г.). Яна складаецца з трох частак. (Keimungsgeschichte des Kartoffelsamens. 2. Keimungsgeschichte der Kartoffelknolle і 3. Wachstumsgeschichte der Kartoffelpflanze.

Дзеля нашай тэмы важнымі зьяўляюцца апошнія 2 часткі. У працы de-Vries'a мы маем падрабязнае апісаньне будовы органаў бульбы, але праца мае галоўным чынам фізыолёгічны характар. Найбольш падрабязнае апісаньне будовы органаў бульбы—сьцябла, ліста, бульбіны, сталёна і кораню — мы маем у трэцяй частцы яго вялізарнай працы. Адзіны яе недахоп заключаецца ў тым, што малюнкі зроблены толькі схэматычна. Працай, якая выпраўляе і гэты прамін, зьяўляецца ўжо навейшая праца нямецкага вучонага Esmarch'a (1919 г.). Ён ставіў сабе мэтай вывучэньне здаровае і хворае бульбяное расьліны (Esmarch: „Beiträge zur Anatomie der gesunden und kranken Kartoffelpflanze“ — 1919). Ён вельмі падрабязна спыняецца на анатомічнай будове паасобных органаў бульбы (вэгэтацыйных), дае дэталёвае апісаньне паасобных тканак гэтых органаў з выразнымі, дакладнымі малюнкамі да іх. У яго выкладаньні агульная анатомічная будова органаў бульбы атрымлівае зусім выстар-

чальнае асьвятленьне. Мусім зазначыць, што на жаль мы раздабылі чужаземную літаратуру і ў прыватнасьці працу Esmarch'а толькі ў канцы 1927 году, калі наша праца была ўжо ня толькі скончана, але і часткова напісана. З гэтай прычыны нам даводзілася самім вывучаць спачатку агульную анатомію органаў бульбы самым падрабязным чынам, перш чым распачаць спэцыяльную частку нашае працы.

Неабходна яшчэ закрануць працу францускага вучонага Berthault'a (1911 г. Recherches botaniques sur le varietés cultivés du Solanum tuberosum"). Ён ставіў сваёй мэтай параўнальнае вывучэньне розных культурных адменаў бульбы. Ён больш закранае морфалёгію бульбы. Анатоміі сьцябла і ліста ён адводзіць вельмі мала месца, найбольш падрабязна спыняецца на будове бульбіны розных адменаў, тутака ён дае даволі каштоўны матар'ял. У канчатковым выніку ўсе гэтыя працы даюць нам больш-менш падрабязна агульную анатомічную будову бульбяное расьліны. Мэта нашае працы—знайсьці розьніцу ў анатомічнай будове вэгэтацыйных органаў яе розных гатункаў.

## Мэтодыка.

Мы вывучалі 8 гатункаў. Гатункі дзеля вывучэньня выбіраліся тыя, якія зьяўляюцца або больш пашыранымі ў нашай мясцовасьці, або пашырэньне якіх больш пажадана. Гатункі браліся з групы раньніх, сярэдніх і позьніх: Раньні ружовы, Каралеўскі раньні, Царскі або Народны, Кругэр, Мэркэр, Імпэратар, Зьніч і Вольтман. Увесь матар'ял дзеля пасадкі мы бралі на Горы-Горацкай дасьл. станцыі. Гатункі Вольтман, Зьніч і Мэркэр Горацкая дасьл. станцыя выпісвала з Эноскосу, Царскі, Імпэратар і Кругэр з Ціміразеўскай Акадэміі, Раньні ружовы і Каралеўскі раньні — былога Горацкага вучэбнага агароду. Бульба была пасаджана ў Ботанічным садзе пры Горацкай С.-Г. Акадэміі ўвясну 1925 году. Матар'ялам дзеля пасадкі служылі найбольш тыповыя бульбіны сярэдняе велічыні.

Пасадка рабілася на глыбіні у 3 вяршкі. Кавалак, на якім садзіліся бульба, зусім роўны, адчынены з ўсіх бакоў, аднолькава асьветлены. Садзілі па 1 бульбіне на градку ў 1 кв. аршын. Паўторнасьць пры посадцы сямёхкратная. Апрацоўваўся кавалак рукамі. Догляд на працягу лета заключаўся ў поліве, крохкаваньні і абматычваньні. На працягу лета былі ўзяты пробы 3 разы адначасова для ўсіх вывучаемых гатункаў, прычым 1-ая проба была ўзята ў пачатку ліпеня, II-ая ў жніўні, а III-яя апошняя перад завяданьнем, у верасьні. Дзеля кожнае пробы бралі розныя часткі сьцябла, розныя лісьці (без падзяленьня на паверхі) [1]. сталёны, зачаткавыя бульбінкі і клалі іх у сьпірытус. Ад апошняе пробы, калі расьліна ўжо зусім дасьпела, клубні захоўваліся ў склепе. Паўторнасьць пры фіксацыі ў спірытусе двохкратная. Пасьля падрыхтоўкі ўсяго матар'ялу распачалі лябораторную працу. Праца вялася адначасна пад двума мікроскопамі з адным раньнім гатункам і адным позьнім спачатку. Зрэзы рабіліся часткова рукою, часткова пры дапамозе маленькага ручнога мікротома (Handmikrotom Leitz'a). Дзеля дэталёвага дасьледаваньня паасобных тканак зрэзы апрацоўваліся рознымі рэактывамі. У сьцяблі зрэзы рабіліся ў трох мясцох: у верхавіне сьцябла, у сярэдзіне яго і ў 3 см. ад зямлі. З тае прычыны, што апошняя надземная частка вельмі

[1]) Заўвага: з прычыны таго, што з пачатку вопыта нам не вядома было значэньне паверхаў дзеля вывучэньня анатоміі.

цьвёрдая, яе клалі ў размягчальную мешаніну з гліцарыны, сьпірытусу і вады, у якой гэтыя часткі сьцябла вылежваліся на працягу 6-7 сутак. Скурку сьцябла злуплівалі з яго, але такім чынам, каб не забраць наступнага падскуранога слою. Вывучэньне агульнае анатоміі сьцябла рабілася па ўсіх трох яго частках. Параўнаньне паасобных тканак па розных гатунках рабілася па той частцы сьцябла, што рэзалася ў 3-х см. ад зямлі. Лісьця рэзаліся розныя—з розных месяцін і featuring розныя.

Маладую бульбінку рэзалі яшчэ ў самым зачаткавым стане, калі на канцы сталёну толькі зьяўляецца ўтаўсьценьне, пасьля бульбінка вялічынёю прыблізна з гарошыну і самая сьпелая бульбіна сярэдняй велічыні. Апошняя рэзалася на 4 часткі якраз на палавіне даўжыні і палавіне шырыні, зрэзы рабіліся ад пэрыдэрмы да асяродкавіны.

На некаторы час зрэзы клалі ў концэнтраваны гліцарын, пасьля рыхтаваліся сталыя прэпараты ў гліцарын-жэлаціне. Мікроскапічныя вымярэньні рабіліся пры дапамозе мікромэтр-акуляру пры розных павелічэньнях дзеля розных вымярэньняў. Усе вымярэньні рабіліся на адным міскроскопе[1]). Значэньне дзяленьня мікромэтр-акуляру вызначалася пры дапамозе вядомага ўжо дзяленьня мікромэтр-об'ектыву. Усяго было зроблена 16600 прамераў. Атрыманыя лічбавыя дадзеныя падлягалі матэматычнай апрацоўцы па формуле: $m = \pm \sqrt{\frac{\varepsilon d^2}{(n-1)\, n}}$, дзе *n* ёсьць лік выпадкаў, *d*—адхіленьне. Коэфіцыэнт $K = \frac{D}{mdiff}$, дзе *Д* ёсьць $M - M_2$ (M—сярэдняе арытмэтычнае) mdif вылічвалі па формуле $\pm \sqrt{m^2 + m_2^2}$ Пры $K > 3$ розьніца лічылася па-за межамі памылкі досьледу, пры $K < 3$ у межах. Малюнкі зроблены намі з натуры зусім дакладна ў пэўных параўнальных маштабах пры дапамозе малявальнага апарату Abbé пры павялічэньні 172 і 515. Толькі схэмы пры невялікім павялічэньні ў 35 разоў[2]).

Уся ляабораторная праца была зроблена ў ляабораторыі профэсара Я. Я. Васількова, у Горы-Горацкай С.-Г. Акадэміі. З-за адсутнасьці сродкаў праца праводзілася ў надзвычайна цяжкіх умовах, але дзякуючы настойлівасьці нашага паважанага настаўніка, профэсара Язэпа Ягоравіча Васількова, праца магла быць скончана. За гэта і за яго каштоўныя для нас заўвагі выказваем яму нашу шчырую падзяку.

Пасьля таго, як наша праца была скончана ў Горках, яна была адпраўлена ва Ўсесаюзны Інстытут Прыкладное Ботанікі, дзе была прагледжана спэцыялістым гістолёгам А. А. Тобенцкім, які нам ласкава паведаміў існуючую чужаземную літаратуру па гэтым пытаньні, за што лічым сваім абавязкам выказаць яму нашу ўдзячнасьць.

Выкладаньне пачынаецца з агульнае будовы бульбы па органах. У такім падзяленьні матар'ялу мы насьлядуем старэйшых дасьледчыкаў і Эсмарха, бо яно нам здаецца больш мэтазгодным, чым падзяленьне па тканках, як у навейшых дасьледчыкаў. Пасьля выкладаньня агульнае анатоміі і пяройдзем да параўнальнае анатоміі розных гатункаў бульбы.

---

[1]) Увага: Мікроскоп Himmler'a. Меншае павялічэньне, ак. 3, аб. 3,1 дзял.=12,8 μ., большае павялічэньне ак. 3, аб'якт. 7, адное. дзяленьне=3,1 μ.

[2]) Перадрук малюнкаў дазваляецца толькі са згоды аўтараў.

# І. АГУЛЬНАЯ АНАТОМІЯ

## Сьцябло.

Надземная сьцябло бульбы ў агульным 3-хграннае. У вузлох папярэчны разрэз 4-хкутні. Пад вузлом дзьве грані злучаюцца і зноў аднаўляецца нормальная 3-х гранная форма. Велічыня папярэчнага разрэзу бывае розная. Найбольшая таўшчыня ў аднаго і таго самага сьцябла бывае над зямлею. Апрача гэтага крыху таўсьцей самыя вузлы ў параунаньні з цэўкамі. Схэма разьмяшчэньня тканак у цэўцы




Мал. № 1. **Схэма будовы сьцябла.** Павялічэньне 35. Кар. ран. проба II-га срока.
1. Падскуравы слой. 2. Каленхіма. 3. Парэнхіма первястковай кары. 4 Знадворная флёэма. 5. Ксілема. 6. Дадатковая флёэма. 7. Асяродкавіна.

наступная: звонку сьцябло пакрыта аднаслаёвым эпідэрмісам, які ў падземным сьцяблі замяняецца цалкам або часткова пэрыдэрмай. За эпідэрмісам ідзе прамежны слой паренхімных каморак, багатых хлёрафілем. Далей — персьцень каленхімна - утаўшчоных каморак рознае шырыні. За ім бескаляровая парэнхіма первястковае кары, якая канчаецца тыповай эндодэрмай. За ёй унугр ідзе кола судзінкавых вязкаў, перарэзанае больш шырокімі або вузкімі пярэнхімнымі палоскамі (асяродкавыя праменьні). У маладых частках сьцябла паасобныя вязкі больш-менш выразна аддзелены адна ад аднае. Крыху пазьней яны зграмаджаюцца ў 3-х-4-х мясцох у большыя групы паміж якімі знаходзяцца аддзельныя вязкі. З узростам гэтае зьліцьцё даходзіць да 3-х—6-ці груп. Адначасова пачынаецца паўторны рост у таўшчыню, такім чынам у старэйшых частках мы маем замкнены ксілемны пярсьцёнак, які дасягае найбольшай шырыні ў кутках насупроць рэбраў, дзе і зьмяшчаюцца большыя 3 групы вязкаў. Пярсьцёнкам разьмешчана і вонкавая флёэма. Самая сярэдзіна сьцябла занята бескаляровай парэнхімай асяродкавіны. Пашкоджаньняў, паражніны ў ёй ня бывае, толькі часамі (у старэйшых частках і ў падземнай частцы) яна працягнена цэнтральнай пустой прасторай (Параўн. de—Yries, стар. 624, Esmarch—стар. 200).

**Эпідэрміс.** Эпідэрміс у надземнага сьцябла аднаслаёвы. Каморкі яго ў папярэчным разрэзе закруглена чатырохкутныя з простымі або ледзь выгнутымі бакавымі сьценкамі. (Гл. мал. № 5.). У тангэнтальным напрамку яны маюць большы дыямэтр, чымся ў радыяльным. Каморкі выцягнены ўдоўж сьцябла, у гэтым напрамку іхняе значэньне найбольшае. Пабочныя каморкі навакол ліставых прадушынак маюць прыблізна аднолькавую даўжыню і шырыню.




Мал. № 2. **Скурка сьцябла з паверхні. (Зьніч).**
1. Ліставая прадушынка. 2. Пабочная каморка. Павяліч. 172.

Знадворныя сьценкі у папяр. разр. крыху пукатыя і грубей радыяльных. Іхняя таўшчыня даходзіць да 5 μ., у той час, як таўшчыня радыяльных 1,5—2 μ. Каморкі эпідэрміса жывыя, каморкавыя сьценкі складаюцца з абалоніны. Памеры каморак эпідэрміса моцна

розьняцца. Верхнія сьценкі суздром пакрыты кутыкуляй, якая да надворку канчаецца ня гладка, а гарбінкамі. Таўшчыня кутыкулі старога сьцябла бывае ад 2 да 3-х μ.[1]). Кутыкуля каля ўваходу ў ліставую прадушынку стварае выступы, так званыя рэбрынкі, якія замыкаюць пярэдні дварок. Апошні вельмі выразна выяўлен, а задні ледзьве намячаецца. Кутыкуля ідзе яшчэ і па краёх шчыліны і на ўнутраным баку замыкальных каморак. У замыкальных каморках знаходзіцца вельмі шмат плястыдаў. Ліставыя прадушынкі разьмешчаны ўздоўж каморак эпідэрміса на ўзвышшы, пад якім знаходзіцца павятровая паласьць.

Сустракаюцца ліставыя прадушынкі і на надземным і на падземным сьцяблі, але на апошнім рэдка. Згодна Esmarch'а, на надземным сьцяблі сустракаецца па 4—12 на кв. мм. на маладых сьцяблох і па і па 1—4 кв. мм. на старых (Esmarch стар. 202)[2]). На падземным сьцябле яны, як сьведчыць De-Vries зусім адсутнічаюць, згодна Esmarch'а, яны таксама сустракаюцца вельмі рэдка, часта менш 1 на кв. мм., прычым яны тутака відаць рана спыняюць сваё функцыі, бо шчыліны ў даволі маладых расьлінаў часткова закаркованыя, часткова шырака зьяюць (параўн. Esmarch стар. 202). Велічыня ліставых прадушынак на наземным сьцяблі меншая, як на падземным.

З узростам каморкі эпідэрмісу ў большасьці нашых гатункаў разьвіваюцца болей у шырыню, як у даўжыню. (Гл. табліцу № 19).




Мал. № 3. **Акрыцьцёвыя валаскі.**

1. З каралеўск. ран. 2. З ран. руж. Павяліч. 172. 3. З галоўнай жылкі „Ран. ружов.“ Павяліч. 515.

**Валаскі.** Сцябло пакрываюць як акрыцьцёвыя, гэтак і залозістыя валаскі. Маладое сьцябло яны пакрываюць даволі густа, а на больш старых сьцяблох яны сустракаюцца наадварот куды радзей[3]). Esmarch налічвае да 18-ці акрыцьцёвых і 40 залозістых на 1 кв. мм. маладога сьцябла і 1—2 акрыцьцёвых валаскі на 1 кв. мм.

[1]) Па Эсмарху таўшчыня кутыкулі толькі 0,5 μ., але ён не зазначае ў старым ці ў маладым сьцябле.

[2]) Мы самі не падлічвалі.

[3]) Дакладнейшага ліку валаскоў на пэўнай плошчы мы не падлічвалі.

старога сьцябла, а залозістых і яшчэ менш. (Esmarch стар. 203). Ён тлумачыць гэта з аднаго боку моцным расьцягам цэўкаў з ростам, з другога боку тым, што большая частка валаскоў рана адсыхае і адваліваецца, не пакідаючы выразных сьлядоў.

Акрыцьцёвыя валаскі не галіністыя, складаецца ад 1 да 6-7 каморак, разьмешчаных у рад. Solereder (стар. 651) адзначае аднарадную неразгаліненую форму валаскоў, як найбольш пашыраную ва ўсёй сям'і Solanaceae.

Канцавая каморка конусавідная з больш-менш закругленым канцом. Даўжыня валаска бывае розная. Шырыня паасобнае каморкі зьнізу ўгару зьмяншаецца паступова. Каморкі валаска ўсе жывыя. Як сьведчыць de-Vries у каморках валаска назіраецца плынь пратаплазмы. Залозістыя валаскі складаюцца з цыліндрычнае падстаўкі і галоўкі кулістае або эліпсавіднае.

Падстаўка часьцей складаецца з аднае каморкі, галоўка шматкаморкавая, складаецца ў большасьці з 3-х—5-ці каморак, разьмешчаных у 2-3 рады па 1—3 каморкі. Esmarch налічвае да 10 каморак у галоўцы, разьмешчаных у 2-3 рады па 1—4 каморкі. (Esmarch стар. 172).




Мал. № 4. **Залозістыя валаскі.**
Павяліч. 515.

**Хлёрафіланосная тканка.** Падскуравы слой каморак характарызуецца багатым зьместам хлёрафілю. Esmarh адзначае 1-2 рады каморак гэтага слою (Esmarch стар. 205). Мы назіралі толькі адзін слой каморак. Форма гэтых каморак у папярэчным разрэзе бывае ад закругленачатырохкутняй да акруглай, памерам яны большыя за каморкі эпідэрміса.

Гэтыя каморкі разьмешчаны адна ад аднае ў рад у вэртыкальным напрамку (па даўжыні сьцябла). Іхняя даўжыня ў межах нашых 8 гатункаў вагаецца ад 37 да 87 μ. Вельмі доўгія каморкі сустракаюцца рэдка. З узростам разьвіцьцё іх такое самое, як і каморак эпідэрміса— менавіта ў сэнсе большага разьвіцьця ў тангэнтальным напрамку і адноснага скарачэньня каморак. (Гл. табл. № 19).

Хлёрафіль гэтага слою надае сьцяблу зялёны колер. У некаторых гатункаў, у якіх сьцябло мае іншую афарбоўку, у гэтым менавіта падскуравым слаі, як сьведчыць Esmarch у каморкавым саку гэтых каморак расчынены фарбавальныя матэрыі. (Esmarch стар. 205), такім чынам ад гэтага слою залежыць колер сьцябла. У падземным сьцяблі гэтага слою няма, там каленхіма пачынаецца непасрэдна за эпідэрмісам.




Мал. № 5. **Папярэчны разрэз праз пэрыфэрычную частку сьцябла.** Зьніч. Проба III-го срока (стар.). Павяліч. 172.

1. Каморкі эпідэрміса. 2. Хлёрафіляносны слой. 3. Каленхіма. 4. Парэнхіма первяст. кары. 5. Эндодэрма 6. Лубяныя валокны.

**Каленхіма.** Каленхімаў сьцяблі стварае замкнёны пярсьцёнак. Ён разьвіваецца даволі роўнамерна, складаецца з 4—6 радоў каморак. Таўшчыня ўсяго пярсьцёнку ў розных гатунках вагаецца паміж 100 і 200 μ. У падземным сьцяблі каленхімныя ўтаўсьценьні выяўлены даволі нявыразна. Esmarch у некаторых выпадках зусім не знаходзіў у падземным сьцяблі каленхімы (Esmarch стар. 206). De-Vries характарызуе гэтым розьніцу надземнага сьцябла ад падземнага.

Формы паасобных каморак ад прызматычнае да цыліндрычнае. Яны разьмяшчаюцца ў правільныя ўдоўжныя рады, злучаюцца адна з аднэй без прамежкаў. Удоўжныя сьценкі таўсьцей, як у характэрнай каленхімы, папярэчныя сьценкі тонкія. Апошнія мясьцінамі маюць прамы напрамак, мясьцінамі касы. Каморкі вельмі доўгія, ад 130 да 360 μ. (у межах нашых 8 гатункаў). Дыямэтр каморак ад 20 да 70 μ. Каморкі жывыя, сьценкі абалоневыя (гл. мал. № 5).

**Парэнхіма первяст. кары.** Парэнхіма первястковае кары зьмешчана паміж каленхімай і пярсьцёнкам с.-в. вязкаў (гл. мал. № 5). У залежнасьці ад таўшчыні сьцябла яна займае ад 2 да 5 каморак. У адным і тым самым зрэзе пярсьцёнак парэнхімы первястковае кары разьвіты не роўнамерна: мясьцінамі таўсьцей, мясьцінамі шмат танчэй. Каморкі ў большасьці выцягнуты ўдаўжыню. Яны тонкасьценныя, у папярэчным разрэзе маюць форму шматкутнюю да акруглай. Яны злучаюцца паміж сабою з міжкаморкавымі прасторамі. Памер паасобных каморак вельмі рознастайны. Папярэчны дыямэтр вагаецца ад

40 да 200 μ. У адным і тым самым зрэзе найбольшы памер маюць каморкі ў сярэдняй частцы парэнхімы первястковае кары. Даўжыня даходзіць да 350 μ. (як сьведчыць Esmarch да 500 μ., стар. 208). З узростам каморкі развіваюцца болей у даўжыню, хаця і ня вельмі значна. (Гл. табл. № 19).

Каморкі жывыя, сьценкі абалоневыя. Сустракаюцца ў парэнхіме первястковае кары крышталёвыя каморкі, якія маюць oxalat-ca ў большасьці ў выглядзе крышталёвага пяску, часамі, радзей, у выглядзе паасобных крышталяў тэтраэдрычнае, або октаэдрычнае формы. (Параўн. Esmarch стар. 207). Унутраны, канцавы шэраг каморак парэнхімы первястковае кары ўтварае эндадэрму, або крухмалістую похву. На папярэчным разрэзе яна выяўляецца ў выглядзе шчыльнага ланцужку, які складаецца з каморак меншага памеру, чымся каморкі парэнхімы первястковае кары (гл. мал. № 5). Каморкі тангэнтальна сплюснутыя, кароткія, злучаюцца бéз міжкаморкавае прасторы. Радыяльныя сьценкі хвалістыя, каспараўскія плямы не назіраюцца. Сьценкі каморак абалоністыя. З узростам каморкі моцна павялічваюць свае памеры ў тангэнтальным напрамку (гл. табл. № 19). У эндодэрмы большасьці гатункаў заўсёды ёсьць крухмальныя зярняткі.

**Асяродкавіна** Да парэнхімы первястковае кары стаіць вельмі блізка па сваёй будове асяродкавіна. Каморкі такія самыя парэнхімныя, толькі іхняя даўжыня ня шмат большая за шырыню. Папярэчны дыямэтр таксама большы, чымся ў каморках парэнхімы кары. Ён даходзіць да 259 μ. у нашых 8 гатунках. Самыя вялікія каморкі бываюць у сярэдзіне асяродкавіны.

У знадворных слаёх асяродкавіны знаходзяцца лыкавыя валокны або групы лыкавых валокнаў, якія не знаходзяцца ў непасрэднай сувязі з флёэмнымі групамі. Часта ў асяродкавіне сустракаецца крышталяваты пясок. У асяродкавых каморках бывае па 2 ядра.

**Пярсьцёнак судз. вал. вязкаў.** У маладым яшчэ сьцяблі ўсе судзінкава-валакняныя вязкі выразна аддзяляюцца адна ад аднае асяродкавымі праменьнямі. Пазьней, з узростам паасобныя вязкі злучаюцца ў групы, прычым паміж гэтымі вялікімі групамі застаюцца яшчэ адзінкавыя вязкі. Вялікія групы вельмі аб'ёмістыя і расьцягнуты як у тангэнтальным, гэтак і ў радыяльным напрамку. Але раней чым пачынаецца гэты рост у таўшчыню, утвараецца замкнены камбіяльны пярсьцёнак, які адкладае ў сярэдзіну элемэнты ксілёмы, да надворку элемэнты флёэмы, утвараючы такім чынам драўнінавы і лыкавы пярсьцёнкі. Мяжы паміж паасобнымі судзінкава-валакнянымі вязкамі знайсьці ўжо нельга. Драўнінавы пярсьцёнак неаднолькавае таўшчыні. Там дзе знаходзяцца 3 вялікія групы вязкаў, ён самы шырокі, паміж імі — самы вузкі. Гэтыя 3 таўсьцейшыя часткі драўнінавага пярсьцёнку разьмешчаны для трох граняў. У гэтых таўсьцейшых частках паўторны прырост драўніны складаецца з судзінкаў і склерэнхімных валокнаў, у той час, як на вужэйшых толькі з склерэнхімных валокнаў (параўн. de-Vries стар. 624). Дробныя с. в. вязкі, якія знаходзяцца ў вузкай частцы пры прыросьце, усё больш адыходзяць, такім чынам гэтая частка драўнінавага пярсьцёнку вельмі бедная на судзінкі, мясьцінамі судзінкаў зусім няма. De-Vries называе гэтую частку „інтэркалярнай" (interkalar), у той час, як шырокую, багатаю на судзінкі — „нормальнай" (normal) (de-Vries стар. 624).

У будове судзінкава-валакняных вязкаў бульбы, зварачае на сябе ўвагу наяўнасьць дадатковых лыкавых вязкаў, зьмешчаных пад кожнаю судз.-валакн. вязкай, (бікалятэральная будова вязкі). (гл. мал. № 6).

Пацьвярджэньне знаходзім і ў Esmarch'а і ў de-Vries'а. Згодна de-Vries'а: „Die einzelnen Stränge des Gefässbündelkreises sind bicollateral, d. h. ihr Holztheil liegt in der Mitte, und ist sowohl nach aussen als nach innen zu Von Weichbast begrenzt. (de-Vries стар. 623).

Дадатковыя вязкі адрозьніваюцца ад знадворнае флёэмы тым, што разьмешчаны невялікімі, акруглымі астраўкамі, (гл. мал. № 6), прычым у багатай судзінкамі драўніне яны куды мацней разьвіты. Згодна Esmarch'а: „Das Gefässreiche Holz sprinqt stark ins Mark vor und wird hier von einer fast ununterbrochen Schicht von Phloëmsträngen begrenzt, an die sich zahlreiche Gruppen von Bastfasern anschliessen". (Esmarch, стар. 211).

У беднай-жа судзінкамі драўніне з унутранога боку флёэмныя элемэнты знаходзяцца ў вельмі нязначнай колькасьці. Што датычыцца знадворнае флёэмы, то яна таксама разьвіваецца розна: у багатай судзінкамі частцы яна разьвіваецца ў шырокую палоску з шматлікімі кратчастымі трубкамі і групкамі лыкавых валокнаў, у той час як у іншых частках знаходзяць толькі раскіданыя кратчатыя трубкі і адзінкавыя лыкавыя валокны (параўн. Esmarch стар. 212). Паміж ксілемай і знадворнай флёэмай знаходзіцца вязкавая мязга, якую можна выразна адрозьніць толькі ў маладзейшых сьцяблах. Паміж ксілемай-жа і ўнутраной флёэмай мязга зусім адсутнічае. Паўторныя асяродкавыя праменьні ў больш старых частках сьцябла выяўляюць сабою шэраг каморак (рэдка 2 або 3 рада параўн. Esmarch стар. 212), выцягнутых у радыяльным напрамку. Часамі яны зусім няпрыкметныя, бо іхнія сьценкі адраўнініліся, але іх можна знайсьці афарбоўваючы ёдавымі рэактывамі, якія адчыняюць тыя крухмальныя зярняткі, што знаходзяццаў гэтых каморках.

**Элемэнты ксілемы.** Ксілема складаецца з судзінкаў (трахэяў), судзінкавых трахэідаў, склеранхімных валокнаў (як называе Esmarch валакняных трахэідаў Fasertracheiden, стар. 212 і парэнхімных каморак. У маладзейшых частках драўніны судзінкі пярсьцянёвыя і сьпіралёвыя, ў старэйшых — сітавінныя і сеткавыя. (Параўн. Esmarch, стар. 214), згодна de-Vries'а: der Holztheil besteht ursprünglich aus Ring-und Spiralgefässen und dünnwandigen gestreckten Holzelementen, beim nachträglichen Dickenwachstum werden vom Cambium aus poröse Gefässe und dickwandige Holzzellen gebildet (de-Vries, стар. 623). Персьцянёвыя і сьпіралевыя судзінкі вужэй за сітавінныя. Сеткавыя па дыямэтры прасьвету ўяўляюць сабою нешта сярэдняе паміж сітавіннымі і персьцянёвымі або сьпіралёвымі (гл. Esmarch стар. 215). У персьцянёвых судзінак пярсьцёнкі накіраваны простастаўна да доўгай восі, радзей коса дя яе. Сітавінныя судзінкі маюць сітавінкі акаймленыя. Сітавінкі зьмешчаны ў напрамку простастаўным да даўжыні судзінкі. Гушчыня сітавінак часамі вельмі значная, часамі меней. Esmarch налічвае на плошчы ў $(42\ \mu)^2 = 0{,}001764$ qmm ад 14 да 32 сітавінак, у сярэднім 22—24 сітавінкі (Esmarch стар. 213[1]). Трахэіды ўяўляюць паасобныя каморкі. Яны таксама бываюць персьцянёвыя, сьпіралевыя, сеткавыя і сітавінныя. Сітавінкі на іх разьмешчаны радзей, як у судзінках і накіраваны коса. Сітавінкі таксама акаймлёныя. Склерэнхімныя валокны (у Esmarch'а Fasertracheiden, у de-Vries'а—Holzfasern) складаюць галоўную масу вузкае часткі драўніны, зьмешчанае паміж 3-ма вялікімі групамі судз.-валакн. вязкаў (што de-Vries называе interkalaren Holz). Яны тутака шчыльна прылягаюць

[1]) Увага: Мы падобных падлікаў не рабілі.

адно да аднаго. У папярэчным разрэзе яны 4—6-кутныя і ў большасьці зьмешчаны ў правільныя радыяльныя рады, што паказвае на тое, што яны тутака мязговага паходжаньня, нават калі няма наяўнасьці гэтага мязговага слою (як у старой частцы сьцябла). Сьценкі склерэнхімных валокнаў бліскучыя, тоўстыя, прычым у больш маладых яшчэ валокнаў, (зьмешчаных бліжэй да мязгі) сьценкі танчэй, чым у старэйшых. Назіраецца пэўная слаёвасьць сьценак. Як у судзінак і трахэідаў, гэтак і ў склерэнхімных валокнах каморкі моцна адраўніліся. Адраўніваюцца каморкі аднаго ўзросту зусім роўнамерна па розных сьценках, але ў межах аднае сьценкі адраўніваюцца нероўнамерна. Больш за ўсё адраўнінеў сярэдзінны пласток, аб чым сьведчыць больш інтэнсыўнае афарбованьне гэтага сярэдзіннага пластку ад дзеяньня флёраглюцыну і саляное кісьліны. Канальцаў і адгародак мы не назіралі. Гэтыя каморкі ўяўляюць сабою тыповы лібрыформ, але лібрыформ просты, не адгародкавы. Сітавінак у сьценках мы таксама не назіралі, Esmarch-жа іх знаходзіў, хаця і ў невялікай колькасьці. (Esmarch стар. 216). Канцы склерэнхімных валокнаў войстрыя і гэтымі канцамі яны налягаюць адзін на аднаго. Папярэчны дыямэтр вагаецца ад 6 да 36 μ. Даўжыня ад 400 да 800 і да 1000 μ.

Усе гэтыя элемэнты ксілемы няжывыя. У працілегласьць ім драўнінавая парэнхіма тонкасьценкавая, не адраўнінеўшая і мае зьмест— крухмаль, зрэдку крышталяваты пясок (параўн. Esmarch стар. 216). У папярэчным разрэзе форма гэтых каморак шматкутняя да акруглае. У папярэчным разрэзе гэтыя каморкі самыя меншыя ў ксілеме. Наогул драўнінавая парэнхіма разьвіта вельмі слаба, як і ва ўсёй сям'і Solanaceae (згодна Solereder'a, стар. 656). Яна знаходзіцца галоўным чынам у старэйшых ксілемных частках (Esmarch стар. 21).

**Элемэнты флёэмы.** Флёэма складаецца з кратчастых трубак са спадарожнымі каморкамі парэнхімы. Элемэнты флёэмы ў большасьці праваджаюцца лыкавымі валокнамі і адрозьніваюцца вельмі малымі папярэчнымі дыямэтрамі. Флёэма ў маладых частках сьцябла ўтварае групы, якія часьцей за ўсё ня больш аднае каморкі суседняе асяродкавіны (параўн. de-Vries стар. 623) або першвястковае кары. (Параўн. Esmarch стар. 217). (Гл. мал. № 6). Папярэчныя сьценкі сітаватых трубак або горызонтальныя або накіраваны коса. Выгляд іх у большасьці акруглы, часамі эліптычны або акруглена-шматкутні. Каля папярэчных кратак ёсьць мазольныя патаўшчэньні. Мясьцінамі відны трубкі з краткамі на ўдоўжных сьценках. Каморкі—спадарожнікі прылягаюць удоўж непасрэдна да сітаватае трубкі. Іхнія канцы завойстраны і гэтымі канцамі яны падыходзяць да папярэчнае краткі такім чынам, што нібы складаюць з сітаватымі трубкамі адно цэлае.

Парэнхіма флёэмы нагадвае каморкі драўнінавае парэнхімы (гл. Esmarch стар. 220). Яны шматкутнія ў папярэчным разрэзэ і заўсёды маюць пратаплязму, часта таксама крухмальныя зярняткі. Калі флёэмная частка выразна выдзяляецца з навакольнае тканкі, тады парэнхіму флёэмы пазнаць лёгка, бо яна адрозьніваецца ад сітаватых трубак і каморак спадарожнікаў сваім вялікім дыямэтрам. Калі-ж няма падобнага адмежаваньня, тады яны пераходзяць у каморкі асяродкавае парэнхімы (параўн. Esmarch стар. 220). Усе гэтыя ўласна—флёэмныя элемэнты маюць тонкія, неадраўнінеўшыя абалоністыя сьценкі

Лыкавыя валокны сустракаюцца ў вялікай колькасьці з надворнага боку надворнае флёэмы ў старэйшых частках сьцябла (параўн. de-Vries, стар. 625). У вельмі маладых частках яны няпрыкметныя

№ 20.

**Сярэднія памеры элемэнтаў розных тканак маладога сьцябла.**

| Гатункі / тканкі | ран. руж. | кар. ран. | цар. | Круг. | Мэрк. | Імпэр. | Зьніч. | Вольт. |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| **Эпідэрміс.** | | | | | | | | |
| рад. дм. кам. | 27,6 | 27,3 | — | 27,9 | 24,8 | 19,5 | 25,4 | 26,3 |
| танг. „ „ | 29,8 | 36,3 | — | 34,3 | 31 | 25,7 | 27,3 | 32,9 |
| прод. „ „ | 140,7 | 51,5 | — | 22,3 | 39,4 | 78,4 | 83,1 | 60,1 |
| **Зам. кам. прадуш.** | | | | | | | | |
| даўжыня | 49,9 | 45.9 | — | 49,6 | 48,7 | 48,7 | 44,6 | 45,9 |
| шырыня | 12,5 | 9,6 | — | 10,2 | 11,8 | 12,4 | 10,2 | 11,5 |
| **Шчыліна прадушынак.** | | | | | | | | |
| даўжыня | 27,5 | 26 | — | 24,8 | 27 | 28,8 | 24,2 | 27,3 |
| шырыня | 5,1 | 4 | — | 4,6 | 4,6 | 10,2 | 1,4 | 4,6 |
| **Падскур. слой.** | | | | | | | | |
| рад. дм. кам. | 31,6 | 36 | — | 31,9 | 25,7 | 21,7 | 26,7 | 27,9 |
| танг. „ „ | 24,8 | 26,7 | — | 43,3 | 39,4 | 28,8 | 35,3 | 34,7 |
| прад. „ „ | 163,4 | 23,2 | — | 41,2 | 31 | 77,5 | 89,9 | 71,3 |
| **Каленхіма (таўшч. пярсьц.)** | | | | | | | | |
| у мікронах | 102 | 119,6 | — | 134,2 | 115,6 | 87,7 | 116,9 | 111,6 |
| у радох | 4 | 5,2 | — | 5,2 | 5,3 | 4,3 | 4,6 | 4,2 |
| **Парэнх. перв. кары.** | | | | | | | | |
| таўшч. пярсьц. | 204,8 | 192 | — | 103,2 | 116,6 | 129,3 | 266,7 | 135,7 |
| папярч. дм. кам. | 227,8 | 86,2 | — | 49,6 | 44,5 | 52,7 | 76,8 | 86,8 |
| прад. „ „ { | 240,6 | 86,2 | — | 59,8 | 48 | 59,8 | 76,8 | 86,8 |
| | 281,6 | 127,2 | — | 157,4 | 175,4 | 268,8 | 258,6 | 163,8 |
| **Эндодэрма.** | | | | | | | | |
| рад. дм. кам. | 27,9 | 26 | — | 31,9 | 30,1 | 30,1 | 35,3 | 42,2 |
| танг. „ „ | 40,3 | 40 | — | 67,3 | 48,4 | 40,3 | 61,4 | 57 |
| прад. „ „ | 79,7 | 70,7 | — | 77,5 | 89,9 | 62 | 108,5 | 54,6 |
| **Недраўнін. вал.** | | | | | | | | |
| папяр. дм. { | 21,7 | 18,6 | — | 17,7 | 13,3 | 16,4 | 27,9 | 20,5 |
| | 11,5 | 20,5 | — | 23,9 | 19,5 | 18,6 | 26,3 | 20,5 |
| таўшч. сьц. | 4,3 | 3,1 | — | 5,6 | 3,1 | 3,1 | 3,1 | 3,1 |
| **Асяродк. па-ма.** | | | | | | | | |
| рад. дм. кам. | 153,6 | 138,2 | — | 162,6 | 71,3 | 83,7 | 176,6 | 126,4 |
| танг. „ „ | 153,6 | 138,2 | — | 144,6 | 69,1 | 75,3 | 171,5 | 125,4 |
| прад. „ „ | 212,5 | 101,1 | — | 157,4 | 124,2 | 153,6 | 179,2 | 220,2 |
| стасун. восяв. ціл. да дыям. сьцябла | 0,32 | 0,85 | — | 0,86 | 0,87 | 0,85 | 0,84 | 0,88 |




Мал. № 6. **Папярэчны разрэз праз шырокую частку драўнінавага пярсьцёнку (малад. сьцябло)** Павяліч. 172. Проба II-га срока. Ран. ружовы.

1. Эндодэрма. 2. Знадворная флёэма. 3. Склерэнхімныя валокны. 4. Сітавінныя судзінкі. 5. Персьцянёвыя і сьпіралёвыя судзінкі. 6. Дадатковыя лыкавыя вязкі.

(параўн. Esmarch, стар. 220). У папярэчным разрэзе яны акругленыя, толькі калі яны шчыльна прылягаюць адно да аднаго, бываюць шматкутнія. (Гл. мал. № 6). Лыкавае валакно верацянападобнае на выгляд, канчаецца закруглена-войстрым канцом. Яны маюць папярэчныя пераборкі, такім чынам па форме яны нагадваюць адгародкавы лібрыформ. Яны вельмі доўгія, куды даўжэй за склерэнхімныя валокны, іхняя даўжыня даходзіць да 2240 μ. або 2,24 мм. Сьценкі вельмі тоў-

стыя, ад 8 да 12 μ. Яны не адраўнінеўшыя, складаюцца з цэлюлёзы, але адрозьніваюцца матавым пэрлямутравым бляскам. У старэйшым узросьце яны дзервянеюць (ад дзеяньня хлёраглюцына і HCl яны афарбоўваюцца ў бледны сьветла-ружовы колер — параўн. Esmarch стар. 221).

**Камбі.** Мязга, якая знаходзіцца паміж ксілемай і знадворнай флёэмай, выразна відна толькі ў маладзейшых частках сьцябла. Яна складаецца з выцягнутых у тангэнтальным напрамку каморачак з вельмі тонкімі абалоністымі сьценкамі. Каморкі жывыя, з густою, не вакуолістаю пратаплязмаю, з ядром у кожнай.

## Л і с т.

Па сваёй форме і велічыні ліст бывае больш-менш розны ў розных гатункаў, але анотамічная будова ліста ўсюды аднолькавая. Мы падзяляем ліст на пласток і хвасток (складанага ліста) з хвасточкам (паасобная доля). У пластку мы адрозьніваем галоўную жылку і мякіш ліста, у якім раскіданы бакавыя дробныя жылкі.

Апішам спачатку эпідэрміс, пасьля мэзафілы і нарэшце жылку.

**Эпідэрміс.** Эпідэрміс ліста аднаслаёвы. Каморкі эпідэрміса з бакоў падыходзяць шчыльна адна да аднае, ад унутраной жа парэнхімы аддзяляюцца большай або меншай колькасьцю прамежкаў. З паверхні каморкі эпідэрміса маюць няправільную форму з хвалістымі, выгнутымі сьценькамі, прычым хвалістасьць на сподні́м баку ліста куды мацнейшыя, чымся на верхнім.

Esmarch кажа, што хвалістасьць на верхнім баку ліста можа зусім зьнікнуць, тады сьценкі робяцца або простымі або вельмі слаба выгнутымі. (Esmarch стар. 165-166). De-Vries знаходзіў часамі такую самую будову і на сподні́м баку ліста (De-Vries стар. 605). Ён тлумачыць гэтае тым, што расьліны выраcталі на вельмі дрэннай глебе. Калі расьліны вырастаюць на добрай глебе, тады на абодвых бакох пластка бываюць выгнутыя сьценкі. De-Vries робіць заключэньне, што ступень хвалістасьці каморак эпідэрміса залежыць ад знадворных умоў. Гэтым Esmarch тлумачыць тыя вялікія індывідуальныя рознасьці, якія траплялiся пры яго шматлікіх дасьледваньнях (Esmarch стар. 166.). У межах аднаго гатунку ў аднае і тае самае расьліны хвалістасьць каморак эпідэрміса бывае розная. Па гэтай адзнацы не магчыма, такім чынам, устанавіць рознасьць паміж паасобнымі гатункамі (Esmarch стар. 166).

На жылках хвалістасьць зьмяншаецца і каморкі выцягваюцца па напрамку жылкі. Пераход да эпідэрміса жылкі бывае паступовы на верхнім баку ліста і раптоўны на яго сподні́м баку. На больш тонкіх галінаваньнях нэрваў каморкі менш выцягнутыя і маюць часткова хвалістыя сьценкі. У апошніх галінах зусім зьнікае расьцягненасьць каморак у даўжыню. (Параўн. Esmarch стар. 166-167). Велічыня каморак розная. Таўшчыня жылкавага эпідэрміса на верхнім і сподні́м бакох ліста прыблізна аднолькавая, і шырыня мала адрозьніваецца ад вышыні. Каморкі-ж няжылкавага эпідэрміса на верхнім баку ліста маюць таўшчыню большую чымся на сподні́м. (Гл. мал. № 9). На верхнім яна вагаецца ў нашых 8 гатунках паміж 16 і 32 μ., на сподні́м— паміж 10 і 16 μ.

Блізка жылкі каморкі маюць найбольшую велічыню ў напрамку нэрва, а ў другіх мясьцінах яны расьцягнуты як папала, то ў адным




Мал. № 7. Верхні бок.




Мал. № 8. Ніжні бок.

Ран. ружовы. Проба III-га срока. **Скурка ліста з паверхні.** Павяліч. 172.

то ў другім напрамку. (Параўн. Esmarch стар. 166—167.) Наогул, як правіла, на верхнім баку каморкі эпідэрміса большыя, як на споднім. З тае прычыны, што форма каморак няправільная, Esmarch раіць ня проста мераць іхнюю шырыню і даўжыню, але вылічваць сярэднюю колькасьць каморак на 1 qmm і пасьля атрымаць велічыню каморкі. (Esmarch стар. 167-168). Ён налічвае ў гатунку „імпэратар“ 420 каморак на верхнім баку і 686 на споднім.

Ад сярэдзіны ліста да краю велічыня каморак эпідэрміса зьмяншаецца. Знадворныя сьценкі каморак эпідэрміса таўсьцей за іншыя. Сьценкі каморак эпідэрміса складаюцца з цэлюлёзы.

Кутыкуля пашыраецца па ўсім эпідэрмісе. На верхнім баку ліста яна таўсьцей, як на споднім[1]). Esmarch вызначае таўшчыню кутыкулі ў 0,5—0,8 μ., якая мясьцінамі даходзіць да 1—3 μ. Кутыкуля ў ліста такая самая гарбінкавая, як і на сьцяблі, прычым на нэрвах гарбістасьць больш частая, чымся ў іншых частках. Esmarch тлумачыць гэта тым, што ў кутыкулі знаходзяцца зерністыя праслойкі накшталт кропак, або кружочкаў, якіх на нэрвах вельмі шмат, а ў іншых мясьцінах яны сустракаюцца рэдка (Esmarch стар. 169). Таксама, як і ў сьцяблі, кутыкуля стварае тутака рабрынкі ля ліставых прадушынах (пярэдні дворык) і працягваецца на радыяльных унутраных сьценках. Каморкі эпідэрміса жывыя, ёсьць пратаплязма і ядро. Хлёрафільных дробачкаў у іх не наглядаем.

**Валаскі.**
**I. Акрыцьцёвыя.** Акрыцьцёвыя валаскі адхіляюцца ад паверхні ліста або проста, або з некаторым адхонам. Іхняя форма такая самая, як і апісаная ў сьцябла. Даўжыня валаска бывае розная. Больш доўгія валаскі ля асновы шырэй і складаюцца з большай колькасьці каморак. Падстаўка валаска складаецца з аднае або некалькіх каморак эпідэрміса, разьмешчаных крыху вышэй суседніх каморак.

Як сьведчыць De-Vries, акрыцьцёвыя валаскі зьяўляюцца ў самай раньняй стадыі разьвіцьця ліста. Калі ліст мае ў даўжыню ўсяго 1 см., тады іхняя гушчыня самая большая. З узростам колькасьць іх зьмяншаецца. Дарослыя лісты ўжо рэдка пакрываюцца валаскамі. (De-Vries, стар. 614).

Сподні бок ліста мае больш акрыцьцёвых валаскоў, як верхні. Esmarch налічваў на 1 qmm на верхнім баку да 12 валаскоў, на споднім да 20 на мясьцінах, вольных ад жылак. (Esmarch стар. 172). Жылкі пакрыты валаскамі гусьцей, чымся мясьціны паміж жылкамі, тонкія жылкі гусьцей, чымся тоўстыя. Esmarch рабіў вельмі шмат вымярэньняў, каб знайсьці розьніцу паміж markнастайнымі гатункамі па гушчыні валаскоў, але ён не дабіўся ніякіх вінікаў. (Esmarch стар. 172). Мы дакладных падлікаў гэтых не рабілі.

**2. Залозістыя.** Як сьведчыць de-Vries, залозістыя валаскі зьяўляюцца пазьней акрыцьцёвых (de-Vries стар. 614). Esmarch кажа, што яны хутчэй зьнікаюць чымся акрыцьцёвыя, (Esmarch стар. 173). Яшчэ на лісьцях, якія ня зусім вырасьлі, большая частка іх моршчыцца, карбаціцца або зусім зьнікае.

Іхняя форма такая самая, як і ў залозістых валаскоў сьцябла. У галоўках валаскоў, апрача пратаплязмы, зьмяшчаецца аднастайная, бураватая матэрыя. Гэты сакрэт зьяўляецца прычынай галоўным чы-

---

[1]) Увага: гэта мы вызначалі на вока. Зрабіць дакладны колькасны падлік на нашым мікроскопе не ўдалося. Пры самым большым павялічэньні адное дзяленьне яго =3,1 м.

нам таго, што Solanaceae маюць прыкры пах, як сьведчыць Fedde (Esmarch стар. 173).

Таксама, як і акрыцьцёвыя валаскі, залозістыя гусьцей за ўсё растуць на маладых лісьцях, дзе гушчыня іх або аднолькавая з акрыцьцёвымі, або часамі перавышае іхнюю. На лісьцях-жа, якія вырасьлі, залозістыя валаскі сустракаюцца ўжо рэдка. Таксама іх больш на споднім баку, паміж жылкамі, чымся на верхнім. (Параўн. Esmarch стар. 173).

**Ліставыя прадушынкі.** Ліставая прадушынка з паверхні мае бобавідную форму, на папярэчным разрэзе закруглена трохкутнюю. (Гл. мал. № 7 і 9). Выразна абазначаны пярэдні дворык, нявыразна—задні. Верхняя і сподняя сьценкі таўсьцей за бакавыя. На верхнім баку ліста прадушынкі зьмешчаны на адным узроўні з суседнымі каморкамі эпідэрміса, на споднім яны разьмешчаны на ўзвышэньнях. На верхнім баку прадушынак менш, чымся на споднім. Памерам ліставыя прадушынкі большыя на верхнім баку, чымся на споднім. Даўжыня замыкальных каморак на верхнім баку ліста вагаецца паміж 36 і 44 μ. на споднім баку паміж 27 і 35 μ. Іхняя шырыня ад 9 да 11 μ. на верхнім баку супроць 8-9,5—10 μ. на споднім.

За эпідэрмісам верхняга боку ліста ідзе асыміляцыйная тканіна—парканістая парэнхіма, са сподняга боку—губкаватая.




Мал. № 9. **Папярэчны разрэз праз мякіш ліста.** Павяліч. 515. Ран. ружовы, проба III-га срока.

1. Эпідэрміс верхняга боку. 2. Слупкаватыя каморкі. 3. Губкаватая тканка. 4. Эпідэрміс сподняга боку. 5. Дыхальная поласьць. 6. Замыкальныя каморкі ліставое прадушынкі.

**Парканістая парэнхіма.** Парканістая парэнхіма складаецца з аднаго раду тыповых слупкаватых каморак. Каморкі цыліндрычныя, простастаўныя да паверхні ліста. Яны шчыльна прылягаюць адна да аднае, не ўтвараючы міжкаморкаў. Каля жылак яны карацей, ля самых



тонкіх галінаваньняў жылак парканістая парэнхіма ня мае ніякае асаблівае будовы. Каморкі парканістае парэнхімы, апрача пратаплязмы і ядра маюць хлёрафільныя зярняткі.

Даўжыня каморак у нашых 8 гатункаў вагаецца паміж 50 і 110 μ. Шырыня паміж 15 і 35 μ.. Адносіны даўжыні к шырыні, гэта зн. адносная слупкаватасьць каморак у межах нашых 8 гатункаў вагаецца ад 2:1 да 5:1. Сярэдняя даўжыня зьмяншаецца ля краю ліста адпаведна зьмяншэньню таўшчыні ліста. Ад асновы да канца яна часта павялічваецца. Esmarch робіць з гэтага вывад, што кончык ліста мае характар сонцавага, — аснова—ценявога ліста, бо парканістая тканка залежыць у значнай меры ад асьвятленьня. (Esmarch стар. 179).

**Губкаватая парэнхіма.** Губкаватая парэнхіма складаецца з 3—6 радоў каморак вельмі рознастайнае формы: прастое, акруглае, цыліндрычнае, разгаліненае ды інш. Каморкі верхняга раду губкаватае парэнхімы маюць прасьцейшую форму і больш-менш выцягнуты ў напрамку парканістае парэнхімы, каморкі-ж сподніх радоў маюць больш няправільную разгаліненую форму і няправільна раскіданы. Паміж імі вялікія міжкаморкавыя прасторы, прычым чымніжэй, тым гэтыя павятровыя прасторы большыя. Па над ліставымі прадушынкамі яны ўтвараюць вялікія дыхальныя поласьці. На самай мяжы губкаватае і парканістае парэнхімы заўважаюцца, хаця ня часта і ня зусім роўнамерна зьбіральныя каморкі. Яны маюць форму кілішкаў або няправільных леяк, якія шырокімі асновамі прылягаюць да парканістае парэнхімы, не ўтвараючы паміж сабою прамежкаў, вужэйшым-жа бокам яны падыходзяць да каморак губкаватае парэнхімы, утвараючы паміж сабою шырокія павятровыя прамежкі. Esmarch гэтыя зьбіральныя каморкі заўважаў вельмі рэдка і паасобна. (Esmarch стар. 180). Блізка ад жылак сустракаюцца болей простыя, акруглыя каморкі, з гэтае прычыны тамака і павятровыя прасторы меншыя, а мяжа паміж парканістаю і губкаватаю тканкамі ужо не такая выразная. Сьценкі каморкавыя тонкія, складаюцца з абалоніны. Зьмест каморак—пратаплязма, ядро, каморкавы сок і хлёрафільныя зярняткі. Апошніх тутака менш, як у парканістай парэнхіме. У губкаватай парэнхіме часта сустракаюцца каморкі з крышталяватым пяском (oxalat-ca). Як сьведчыць Solereder крышталяваты пясок вельмі пашыраны ў сям'і Solanaceae і для рода *Solanum* (як і для некаторых іншых) ён зьяўляецца характэрным (Solereder стар. 654). Памеры каморак губкаватае парэнхімы розныя. Вымяраць каморкі паасобку ня мае сэнсу з-за іхняе няправільнае формы. Мы вымяралі таўшчыню ўсяе губкаватае парэнхімы. У нашых 8 гатункаў яна вагаецца паміж 45 і 100 μ. Esmarch тлумачыць вялікае ваганьне ў таўшчыні губкаватае парэнхімы, як і парканістае неаднолькавымі ўмовамі разьвіцьця. Як вядома, слабое асьвятленьне і вільготнае паветра спрыяюць угварэньню губкаватае парэнхімы. У адным і тым самым лісьце таўшчыня і колькасьць радоў зьмяншаюцца пад край ліста.

**Жылка ліста.** На папярэчным разрэзе галоўная жылка ўяўляецца ў выглядзе вялікага паўкруглага выступу са сподняга боку і падоўжанага грэбяню з верхняга.

Эпідэрміс таксама аднаслаёвы з гарбінкаваю кутыкуляй, як і ў сьцябла. Непасрэдна за эпідэрмісам ідзе ўтаўшчоная каленхімная тканка. Яна асабліва разьвіта ў грэбені, тутака яна дасягае ад 4 да 10 радоў каморак, у той час, як у сподняй пукатай частцы 1—3 рады. У гэтай апошняй каленхімная тканка разьвіта нераўнамерна: шырэй за ўсё яна




Мал. № 10.

**Галоўная жылка ліста. Пяпярэчны разрэз.** Зьніч. Проба III срока. Паваліч. 172.
1. Эпідэрміс. 2. Каленхіма. 3. Дуга с. в. вязкаў. 4. Крышталяватая каморка.

ў самай пукатай сподняй частцы гэтага выступу, падыходзячы-ж да мякішу яна пераходзіць у адзін рад і зусім зыходзіць на нішто. Таўшчыня каленхімнае часткі зьмяншаецца тым болей, чым танчэй робяцца жылкі. Што датычыцца паасобных каленхімных каморак, то нельга нічога дадаць да таго, шчо апісана ў сьцяблі.

За каленхімай ідзе парэнхімная тканка. Каморкі парэнхімнае тканкі злучаюцца адна з аднэй ужо ня так шчыльна, як каленхіма, а ўтвараюць вялікія або малыя міжкаморкавыя прасторы. Сьценкі каморак тонкія. У парэнхімнай тканцы вельмі часта трапляюцца каморкі з крышталяватым пяском. Паасобныя крышталі сустракаюцца рэдка, друзаў мы не знаходзілі (параўн. Esmarch стар. 186). Велічыня каморак парэнхімнае тканкі розная. Большыя каморкі знаходзяцца ў сярэдняй частцы парэнхімнае тканкі. Знадворку і коўнутры каморкі меншага дыямэтру. Усе каморкі жывыя. Сустракаюцца ў каморках парэнхімы крухмальныя зярняткі асабліва ў крайнім, унутраным радзе парэнхімы. Гэты рад складаецца з самых дробных каморах парэнхімы; яны прылягаюць адна да аднае шчыльна, без прамежкаў, утвараючы крухмаляватую эндадэрму, якая атачае сподні бок дугі судзінкава-валакняных вязкаў. Каморкі яе тангэнтальна сплюснутыя і карацейшыя за іншыя парэнхімныя каморкі.

Група с.-в. вязкаў разьмешчана ў выглядзе дугі ў сярэдзіне жылкі. Паасобныя вязкі ляжаць густа адна ля другое. Іхняя колькасьць розная ў залежнасьці ад велічыні ліста і зьмяншаецца ад галоўнае жылкі дя бакавых, пакуль застанецца ўсяго адная вязка. Будова вязкаў такая самая бікалятэральная, кожная вязка складаецца з судзінкавае часткі і верхняе і сподняе лыкавае часткі. Мязгавыя каморкі са сподняга боку паміж драўнінай і лыкаваю часткай не заўсёды выразна выяўлены. Судзінкі таксама з рознымі патаўшчэньнямі сьценак — персьцянёвыя, сьпіралёвыя, сеткавыя і сітавінныя. У бакавых нэрвах сеткавыя і сітавінныя судзінкі сустракаюцца радзей і нарэшце зусім зьнікаюць. Наадварот, персьцянёвыя і сьпіралёвыя судзінкі знаходзяцца ў самых апошніх разгаліненьнях нэрваў. Усе элемэнты лыкавае часткі (сітаватыя трубкі, спадарожныя каморкі і парэнхімныя каморкі) маюць вельмі невялікія папярэчныя памеры і тонкія сьценкі і з гэтай прычыны іх лёгка адрозьніць ад навакольных каморак. Верхняя лыкавая частка робіць такое ўражаньне, нібы яна стварылася з аднае парэнхімнае каморкі шляхам дзяленьня. Верхняя флёэма заўсёды менш моцная, чымся сподняя. У тонкіх нэрвавых разгаліненьнях яна моцна скарачаецца і зьнікае. Сподняя-ж флёэма працягваецца і ў самых тонкіх нэрвавых галінках. Памеры паасобных элемэнтаў зьмяншаюцца калі зьмяншаецца ліст. У адным і тым самым лісьце памеры паасобных элемэнтаў зьмяншаюцца ад асновы да кончыка ліста. Як сьведчыць Esmarch памеры знаходзяцца ў залежнасьці ад узросту.

**Ліставы хвасток і хвасточак.** Знадворны выгляд ліставога хвастка таксама як і памеры папярэчнага разрэзу крыху розныя ў розных частках хвастка. Ля асновы ліста форма прыблізна папярэчна-эліптычная з найбольшым горызонтальным дыямэтрам. Далей абрысы больш акруглае формы, у напрамку да кончыка форма ізноў эліптычная, але тутака самы большы дыямэтр простападны. Верхні бок хвастка мае 2 жалабкі, якія праходзяць праз увесь хвасток. Яны драбнеюць у напрамку да асновы, пасьля зусім зьнікаюць. У сярэдзіне яны найбольш глыбокія. У адпаведнасьці з гэтым у сярэдзіне верхняга боку знаходзіцца ўзвышэньне напушанае формы, а па абодвых бакоў жалабкоў

па валіку. (У Esmarch'a — eine Leiste, стар. 191; у de-Vries'a — рабрына, Rippe).







Мал. № 11. **Хвасток ліста.** Ран. ружа. Схэма. Павяліч. 36.

Мал. № 12. **Хвасточак ліста.** Зьніч. 1. Каленхіма 2. С.-в. вязкі. Проба III срока.

Сярэдняе напушэньне пераходзіць у канцы ў грэбень галоўнае жылкі канцавога ліста.

З тае прычыны, што бакавыя хвасткі зусім падобныя да верхняга канцу галоўнага хвастка, мы спыняцца паасобна на яго будове ня будзем.

Анатамічная будова хвастка і хвасточка вельмі падобна да анатамічнае будовы галоўнае жылкі. У папярэчным разрэзе мы бачым знадворку аднаслаёвы эпідэрміс, за якой мясьцінамі знаходзіцца хлёрафіляносная парэнхіма, мясьцінамі каленхіма (параўн. Esmach, стар. 191 і de-Vries, стар. 609). Esmarch таксама знаходзіць гэтую хлёрафіляносную тканку, апрача каленхімы, de-Vries зазначае толькі на каленхіму, якую ён знаходзіў непасрэдна за эпідэрмісам: „Unter der oberhaut fand ich auf-Querschnitten stets eine dünne Schicht collenchymatischen Gewebes" (de-Vries, стар. 609).

Верхняя частка хвастка мае багацейшую хлёрафіляносную парэнхіму і каленхіму. Першая знаходзіцца ў верхніх частках больш зьвязанымі радамі, у той час як у сподняй частцы паасобнымі гнёздамі. Каленхіма дасягае найвялікшай моцы ў сярэднім напушэньні (да 10—12 слаёў). На сподні баку яе бывае 3—5 слаёў пасярэдзіне, па краёх-жа і таго менш (1-2 рады).

Ля асновы хвастка каленхіма ўтварае зусім замкненую фігуру, якая каля рабрын перарываецца ў канцох.

Ад каленхімы ў сярэдзіну хвастка ідзе бескаляровая парэнхіма асноўнае тканкі, у якой разьмешчаны судзінкава-валакняныя вязкі. Сыстэма судз.-валакн. вязкаў таксама, як і ў галоўнай жылцы, утварае поўкруглую, адчыненую ўгары дугу. Яна мясьцінамі перарываецца шырокімі асяродкавымі праменьнямі ў 3-4 рады парэнхімных каморак, утвараючы 3 вялікія групы судз.-валакн. вязкаў: сярэднюю групу з меншага ліку вязкаў і 2 бакавыя групы з большага ліку вязкаў. Ад гэтай дугі судз.-валакн. вязкаў аддзяляюцца яшчэ невялікія групы вязкаў у адрогах (рэбрах) верхняга боку. Галоўная група судз.-валакн.

вязкаў абмяжоўваецца з усіх бакоў асноўнаю тканкай, судз.-валакн. вязкі рэбраў мяжуюцца часткова або з усіх бакоў з хлёрафіляноснай парэнхімай. Асноўная тканка, адпаведна асноўнай тканцы сьцябла, падзяляецца на каравую парэнхіму і асяродкавую. Тая частка асноўнае тканкі, якая ляжыць з-пад іспаду судз.-валакн. вязкаў дугі адпавядае каравой парэнхіме і разьвіта менш моцна. Другая частка, якая ляжыць угары, адпавядае асяродкавай парэнхіме і разьвіта мацней. Самы ўнутраны рад каравое парэнхімы таксама, як і ў сьцяблі, утварае крухмаляватую эндадэрму, якая цягнецца да бакавых канцоў дугі с.-в. вязкаў. Рэбравыя-ж вязкі або зусім ня маюць яе, або маюць сваю асобную эндодэрму.

Якасьці паасобных тканак істотна не розьняцца ад якасьці ў жылках. Эпідэрміс такі самы аднаслаёвы. Валаскі — і акрыцьцёвыя і залозістыя маюць такую самую будову. Растуць яны гусьцей у напрамку да кнчыка, каля асновы ў большасьці няма валаскоў.

Хлёрафільная парэнхіма нагадвае губкаватую парэнхіму мэзафілю. Па форме каморкі хлёрафільнае парэнхімы маюць усе пераходы ад простае да разгаліненай, утвараючы таксама вялікія міжкаморкавыя прасторы. Паасобныя каморкі каленхімы такія самыя, як і ў жылках, толькі патаўшчэньні граняў большыя.

У каморках асноўнае тканкі таксама сустракаецца шчавелевакіслы СА (кальцы) і ў выглядзе крышталяватага пяску і ў выглядзе паасобных крышталяў, прычым у хвастку такіх крышталяватых каморак больш, чымся ў хвасточку.

Судз.-валакн. вязкі, галоўным чынам вялікія, маюць таксама бікалятэральную будову. Мязгавы слой паміж ксілемай і знадворнай флёэмай у большасьці выразна адрозьніваецца. Ксілема і флёэма маюць тутака тыя самыя элемэнты, што і ў жылках ліста, толькі тутака яны ў большай колькасьці, больш і выразьней выяўлены іхнія асаблівасьці.




Мал. № 13. **Скурка сталёну з паверхні.**
Ран. ружовы. Проба II-га срока.
1. Прадушынка. 2. Пабочныя каморкі.
Павяліч. 172.

## Сталён.

Схэма разьмяшчэньня тканак у сталёна такая самая, як і ў надземнага сьцябла, але разьвіцьцё гэтых тканак крыху іншае. Эпідэрміс такі самы аднаслаёвы, але каморкі яго больш выцягнуты ў радыяльным напрамку, чымся ў тангэнтальным. (Гл. табл. № 22, мал. № 14). Таўшчыня сьценак аднае і тае самае каморкі аднолькавая. Кутыкуля не гарбінкавая і выразна слаёвая. Ліставыя прадушнікі адрозьніваюцца большым памерам замыкальных каморак і маюць моцна рассунутыя шчыліны. У замыкальных каморках вельмі буйных прадушынак мы не знаходзім зусім ніякага зьместу. Драбнейшыя прадушнікі з жывымі коморкамі траплялiся вельмі рэдка.

№ 21.

**Памеры элемэнтаў розных тканак ліста.**

| Гатункі / Тканкі | Ран. руж. | Кар. ран. | Цар. | Круг. | Мэрк. | Імпэр. | Зьніч. | Вольт. |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Эпідэрміс | | | | | | | | |
| Верхн. бок | | | | | | | | |
| Вышыня кам. | 25,1 | 31,6 | 22,6 | 22,6 | 16,4 | 21,7 | 24,5 | 24,8 |
| Шырыня | 32,5 | 53,3 | 37,2 | 36,3 | 31 | 25,7 | 45,6 | 42,2 |
| Зам. кам. прадушынкі | | | | | | | | |
| Даўжыня | 37,8 | 40,9 | 41,2 | 38,7 | 36,3 | 42,5 | 41,2 | 41,2 |
| Шырыня | 9,3 | 9,9 | 9,3 | 9,3 | 8,7 | 10,2 | 10,5 | 9,9 |
| Шчыліна прадушынкі | | | | | | | | |
| Даўжыня | 21,7 | 22,9 | 22,6 | 24,8 | 20,8 | 27 | 18,9 | 21,1 |
| Шырыня | 4 | 4,6 | 3,7 | 3,4 | 3,1 | 3,1 | 6,2 | 3,4 |
| Сподні бок | | | | | | | | |
| Вышыня кам. | 15,5 | 11,8 | 12,4 | 12,4 | 10,2 | 13,3 | 13,3 | 18,3 |
| Шырыня | 18 | 13,6 | 17,7 | 13,3 | 11,5 | 18,6 | 14,6 | 14,6 |
| Зам. кам. прадушынак | | | | | | | | |
| Даўжыня | 32,2 | 35,3 | 27,9 | 30,1 | 30,1 | 36,3 | 33,2 | 33,5 |
| Шырыня | 9 | 9 | 8,7 | 9,3 | 3,4 | 9,3 | 9,3 | 8,4 |
| Шчыліна прадушынак | | | | | | | | |
| Даўжыня | 22,6 | 21,4 | 17,7 | 18,6 | 19,5 | 22,6 | 16,1 | 18,3 |
| Шырыня | 4,3 | 3,7 | 4 | 3,7 | 3,7 | 3,7 | 4 | 3,4 |
| Зьбірал. каморкі | | | | | | | | |
| Вышыня | 29,1 | 30,4 | 25,7 | 40,3 | 27,9 | 27,9 | 31 | 29,1 |
| Шырыня | 26,7 | 24,4 | 18,6 | 18.6 | 21,7 | 17,7 | 24,2 | 24,8 |
| БУЛЬБІНА | | | | | | | | |
| Процант дробных крухмальн. зярнятак | 67,6 | 61,9 | 53,2 | 55,4 | 65,8 | 55,1 | 54,2 | 16,8 |
| Сярэдняя кольк. крухм. зярнятак у каморцы | 21 | 20 | 22,7 | 27,7 | 24,4 | 24,7 | 33,6 | 33,7 |

Увага: Усе дадзеныя ў мікронах.

Пабочныя каморкі вакол прадушынак куды драбней памерам і большыя лікам, як у надземнага сьцябла. У сталёнах яны ізодыямэтрычныя, чым розьняцца ад пабочных каморак у надземнага сьцябла. Вельмі рэдка сустракаюцца ў сталёне і прадушынкі, якія нераўнамерна разьмешчаны. Мы знаходзім іх часьцей у тых мясьцінах, ад якіх адыходзіць група карэнчыкаў, у іншых мясьцінах не знаходзілі іх на вялікім працягу. Esmarch таксама вызначае вялікую няправільнасьць у разьмеркаваньні прадушынак у сталёне. На плошчы ў 10—12 qmm ён часамі знаходзіў 8—13, часамі 1—3, а часамі зусім не знаходзіў ні воднае. У сярэднім за малым 1 прадушынку на 1 qmm (Esmarch стр. 227). Тую самую незаканамернасьць у разьмеркаваньні прадушынак пацьвярджае і de-Vries: часта на вялікіх прасторах ён іх зусім не знаходзіў, часта па 3 і болей на 1 qmm (de-Vries стар. 641).

Такую самую незаканамернасьць адзначае Esmarch у разьмеркаваньні валаскоў на сталёне[1]). Мясьцінамі ён іх зусім не знаходзіў, мясьцінамі па 20—40 на 1 qmm. Наогул яны растуць гусьцей на маладых сталёнах і на кончыках. Esmarch знаходзіў толькі адныя акрыцьцёвыя валаскі, нідзе не назіраючы залозістых. Сустракаў ён адзіночныя каленчата-выгнутыя валаскі, што тлумачыць тым, што глеба націскае на іх у часе росту (Esmarch стар. 228). У мясьцінах пашкоджаньняў, пад самым месцам разрыву ўтвараецца пэрыдэрма ў 2 і некалькі радоў. Адразу за эпідэрмісам пачынаецца первястковая кара. Хлёрафіляноснага падскуранога слою тутака няма. Знадворныя 1—2 слаі первястковае кары маюць каленхіматычныя патаўшчэньні, але яны не зьяўляюцца тыповымі і вельмі слаба выяўлены. (Параўн. de-Vries стар 641). Тутака так сама, як і ў сьцяблі, у адным і тым самым папярэчным разрэзе самыя большыя каморкі знаходзяцца ў сярэдзіне кары. Парэнхіма первястковае кары, як і асяродкавая парэнхіма запоўнена крухмальнымі зярняткамі не слаёвымі, невялікага памеру. Апошні рад первястковае кары ўтварае крухмалістую эндадэрму. У ёй крухмаль куды драбнейшы, чымся ў іншых каморках первястковае кары і асяродкавіны. У тым выпадку, калі папярэчны разрэз праходзіць праз вузел, у некаторых каморках парэнхімы сустракаюцца крухмальныя зярняткі слаёвае будовы і буйнейшыя. Можна дапусьціць, што ў гэтых мясцінах зьбіраецца шмат крухмалю.

І Esmarch і de-Vries зазначаюць на прыустнасьць у сталёнах камяністых каморак, якія нават складаюць асаблівую характарыстыку сталёну. Мы знаходзілі камяністыя каморкі толькі ў бульбінах і то ня ўсіх гатункаў, у сталёнах-жа мы іх не назіралі. Як сьведчыць Esmarch, гэтыя каморкі знаходзяцца паміж парэнхімай і каленхімнымі патаўшчэньнямі первястковае кары (Esmarch стар. 229-230), прычым ён іх знаходзіў не ва ўсіх гатункаў. Таксама і de-Vries знаходзіў іх у адзіночных гатункаў. (de-Vries стар. 222). Судз.-валакн. вязкі маюць такую самую будову, як і с.-в. вязкі сьцябла. У драўніне знаходзяцца персьцянёвыя і сьпіралёвыя судзінкі, пазьней сітавінныя і шмат склерэнхімных валокнаў. Паміж ксілемай і знадворнай флёэмай тутака выразны слой мязгі. Утвараецца і міжвязкавая мязга, якая злучае паасобныя вязкі. (Параўн. de-Vries стар. 640 і Esmarch стар. 231.

Каморкі асяродкавае парэнхімы апрача крухмалю нясуць таксама і крышталяваты пясок, як і парэнхіма первястковае кары. Таксама сустракаюцца ў парэнхіме сталёну кроплі тлустасьці, асабліва ў некаторых гатункаў.

[1]) Увага: мы валаскоў на сталёне не назіралі.




Мал. № 14. **Папярэчны разрэз сталёну.** Ран. ружовы. Проба II-га срока.
1. Эпідэрміс. 2. Утварэньне пэрыдэрмы пад месцам пашкоджаньня. 3. Крышталёв. каморка. 4. С.-в. вязка. 5. Асяродкавіна. Павяліч. 172.

№ 22.

**Памеры элемэнтаў розных тканак сталёну.**

| Гатункі / тканкі | Ран. руж. | Кар. ран. | Цар. | Круг. | Мэрк. | Імпэр. | Зьніч. | Вольт. |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Эпідэрміс. | | | | | | | | |
| рад. дм. кам. . . . . . | 36,3 | 37,8 | 35 | 28,8 | 30,1 | 33,2 | 33,2 | 27,9 |
| танг. „ „ . . . . . . | 20,8 | 27,3 | 26,9 | 24,8 | 24,8 | 23,9 | 26,6 | 26,7 |
| прад. „ „ . . . . . . | 96,1 | 96,7 | 116,9 | 93 | 135,5 | 84,6 | 65,7 | 89,3 |
| Зам. кам. прадуш. | | | | | | | | |
| даўжыня . . . . . . . | 68,2 | 80,6 | 82,8 | 65,7 | 81,5 | 74,4 | 84,9 | 72,5 |
| шырыня . . . . . . . | 35,4 | 16,7 | 23,9 | 20,8 | 24,8 | 25,7 | 25,4 | 16,7 |
| шчыліна прадуш. | | | | | | | | |
| даўжыня . . . . . . . | 26,4 | 44,6 | 35 | 31,3 | 40,3 | 22,6 | 38,4 | 36 |
| шырыня . . . . . . . | 15,4 | 15,5 | 16,4 | 9,9 | 18,6 | 12,4 | 10,5 | 12,4 |
| Каленхіма. | | | | | | | | |
| дадат. таўшч. пярсьцёнку. . | 51,8 | 89,9 | 98,8 | 93 | 93 | 93 | 142,6 | 114,7 |
| папяр. дм. кам. . . . { | 32,5 | 32,2 | 43,4 | 44,3 | 30,1 | 33,2 | 45,9 | 50,2 |
| | 31,6 | 31,6 | 40,3 | 40,5 | 31,9 | 27 | 49,6 | 32,7 |
| прад. дм. кам. . . . . . | 266,2 | 133,3 | 160,3 | 196,2 | 182,9 | 201,5 | 133,3 | 134,5 |
| парн-ма перв. кары. | | | | | | | | |
| таўшч. пярсьц. . . . . . | 256 | 391 | 387,8 | 341,8 | 362,2 | 290,6 | 316,2 | 303,4 |
| папяр. дм. каморкі . . { | 69,1 | 74,2 | 73 | 51,2 | 93,4 | 76,8 | 99,8 | 128 |
| | 58,9 | " | " | 64 | 76,8 | 64 | 84,5 | 131,8 |
| прад. „ „ . . . | 184,3 | 192 | 422,4 | 170,2 | 245,8 | 208,6 | 225,3 | 220,2 |
| Эндадэрма. | | | | | | | | |
| рад. дм. . . . . . . . | 29,1 | 31 | 28,8 | 34,1 | 38,2 | 30,1 | 49,6 | 49,6 |
| танг. „ . . . . . . . . | 40,9 | 59,5 | 58 | 42,5 | 49,6 | 64,9 | 70,7 | 69,4 |
| прад. „ . . . . . . . . | 130,2 | 117,8 | 109,4 | 113,7 | 108,5 | 113,8 | 148,2 | 101,7 |
| Неадраўн. камвал. | | | | | | | | |
| папярэчн. дм. . . . . { | 13,3 | 16,8 | 36,3 | 12,4 | 16,4 | 12,4 | 10,2 | 17,7 |
| | 8,4 | " | 17,7 | " | " | 15,5 | 13,3 | 13,3 |
| таўшч. сьцен . . . . . | 6,2 | 5,9 | 4,6 | 4,9 | 4,6 | 4,6 | 7,7 | 7 |
| Асяродк. парэнхіма. | | | | | | | | |
| папяр. дм. камор. . . . { | 60,2 | 107,5 | 106,2 | 124,2 | 93,6 | 93,4 | 84,5 | 115,2 |
| | 53,8 | " | 102,4 | 89,6 | 106,2 | 98,6 | 79,4 | 115,2 |
| прад. „ „ . . . . . | 271,4 | 286 | 290,6 | 140,8 | 192 | 256 | 325,1 | 156,2 |
| стасунак L:l . . . . . . | 0,58 | 0,70 | 0,68 | 0,67 | 0,74 | 0,70 | 0,68 | 0,72 |
| L=Дыямэтр восяв. цыліндра<br>L=Дыям. усяго сталёна | | | | | | | | |

Увага: усе дадзеныя ў мікронах.

## Бульбіна.

Будова яшчэ маладзенькае бульбінкі падобна да будовы сталёну. Пры далейшым разьвіцьці паступова атрымліваецца малюнак дарослае бульбіны, які мае свае асаблівасьці дзякуючы свайму моцнаму разьвіцьцю ўшыркі пры абмежаванай даўжыні і сваёй функцыі быць запасным складам для крухмалю.

Толькі самая маладая частка маладзенкае, непашкоджанае бульбінкі пакрыта яшчэ аднаслаёвым эпідэрмісам. Калі зрэз зроблен глыбей, у старэйшай частцы бульбінкі, мы ўжо бачым што каморкі эпідэрмісу дзеляцца, пачатак утварэньня пэрыдэрмы.




Мал. № 15. **Папярэчны разрэз праз маладзейшую частку бульбінкі:** Зьніч. **пачатак утварэньня пэрыдэрмы.** Павяліч. 515.

У наступнай стадыі разьвіцьця мы ўжо бачым па ўсёй пэрыфэрыі некалькі радоў тангэнтальна выцягнутых каморак, яшчэ жывых.




Мал. № 16. **Наступная стадыя разьвіцьця пэрыдэрмы бульбінкі.** Зьніч. Павяліч. 515.

У канчатковым выніку эпідэрміс цалкам замяшчаецца пэрыдэрмай. (Гл. мал. № 17). Як мы назіралі, пэрыдэрма утваралася з эпідэрміса. Як сьведчыць Эсмарх (Esmarch) пэрыдэрма утварылася або з эпідэрміса, або з падскуранога слою, або з абодвых разам. (Esmarch стар. 237). Згодна de-Vries'a, можна зразумець, што пэрыдэрма ўтвараецца шляхам дзяленьня каморак эпідэрміса. Хаця ён і ўспамінае пра дзяленьне каморак падскурнага слою, але цяжка зразумець, ці адносіць ён гэта да ўтварэньня пэрыдэрмы. (de-Vries стар. 641). У зусім разьвітае бульбіны пакрыўная тканка складаецца з пробкавага слою. Пробкавыя каморкі маюць форму дошчачак з тонкімі сьценкамі. Лік радоў пробкі розны ў залежнасьці ад гатунку. (Мал. № 17).




Мал. № 17.

Пярсьцёнак судз.-валакн. вязкаў у самай маладой бульбінцы перацінаецца шырокімі слаямі парэнхімных каморак. У маладой бульбінцы с.-в. вязкі яшчэ вельмі мала разьвітыя, але паступова яны атрымліваюць сваё далейшае разьвіцьцё. Пярсьцёнак с.-в. вязкаў абмяжоўвае знадворку шырокую первястковую кару, з сярэдзіны асяродкавіну. Первястковая кара ў маладой бульбіны разьвіта пропорцыянальна мацней. У дарослай і асяродкавіна і с-в. вязкі атрымліваюць боле вялікі прырост. Велічыня каморак парэнхімы первястковае кары і асяродкавіны бывае розная ў залежнасьці ад гатунку. У межах аднаго і таго самага зрэзу найвялікшыя каморкі бываюць у сярэдзіне первястковае кары. Як парэнхіма первястковае кары, гэтак і асяродкавая парэнхіма з с.-в. вязкамі зрабілісязапасным складам для крухмальных зярнятак. Самыя багатыя крухмалем слаі первястковае кары гэта яе сярэднія слаі. (Гэта добра відаць на вока).

Каморкі асяродкавіны большыя за каморак первястковае кары. У іншым яны зусім падобныя. Самая сярэдзіна асяродкавіны бядней крухмалем. У знадворных слаёх первястковае кары сустракаюцца бялковыя крышталі кубічнае формы. Думаем, што на іх зазначае de-Vries, калі гаворыць аб наяўнасьці ў знадворным слаі первястковае кары аляйронавых зернят, або крышталёідаў, якія па форме падобны на крышталі (кубічн.), але адрозьніваюцца іншымі фізыолёгічнымі функцыямі. (de-Vries стар. 222).

Esmarch знаходзіць залежнасьць наяўнасьці бялковых крышталяў ад дадзенага гатунку бульбы. У некаторых гатункаў, кажа ён, яны зусім не сустракаюцца, у некаторых — сустракаюцца вельмі роўнамерна (Esmarch стар. 248)[1]).

Esmrch робіць заўвагу аб значэньні слаёў первястковае кары, якія ляжаць непасрэдна пад шалупіньнем: ад іх залежыць афарбоўка бульбіны, бо ў каморкавым саку гэтых каморак знаходзіцца фарбавальная матэрыя (чырвоныя і сінія бульбіны). Esmarch стар. 248). У парэнхіме первястковае кары знаходзяцца таксама і крышталяватыя каморкі, але радзей, як у сталёне і сьцяблі. У гэтых каморках крухмальныя зярняткі дробней, як у іншых каморках. У некаторых пэўных гатункаў у парэнхіме первястковае кары каля вочка сустракаюцца камяністыя каморкі[2]).

Форма крухмальных зярнятак вельмі рознастайная: доўгаватая, падоўжаная, акругла-кулістая, клінаватая, 3-х або 4-х кутняя, закруг-

[1]) Мы гэтага не дасьледвалі.

[2]) Увага: падрабязней аб камяністых каморках бульбіны ў спэцыяльнай частцы.

леная і г. д. Памерам крухмальныя зярняткі бываюць трох радоў: буйныя, сярэднія і дробныя[1]). Буйныя і сярэднія слаістыя, слаёвасьць эксцэнтрычная. Складныя зярняткі сустракаюцца, але рэдка.

Судз. - валакн. вязкі ўтвараюць, як ужо зазначана вышэй, пярсьцёнак, які перацінаецца парэнхімнымі каморкамі, якія злучаюць парэнхіму первястковае кары з асяродкаваю парэнхімай. Пазьней, пры далейшым разьвіцьці, утвараецца замкнёны мязгавы пярсьцёнак. У старэйшых бульбінах с.-в. вязкі адзіночныя, яны аддзяляюцца адна ад аднае вялікаю колькасьцю парэнхімных каморак. Сама па сабе драўнінавая частка разьвіта тутака вельмі слаба. Судз. - валакн. вязкі складаюцца з некалькіх судзінак, якія злучаюцца адна з аднэй без міжкаморак. Судзінкі тутака толькі персьцянёвыя і сьпіралёвыя. Адраўнінелі тутака толькі судзінкі, драўнінавая-ж парэнхіма зусім не драўнінее. De - Vries вельмі падрабязна спыняецца на асаблівасьці паўторнага росту ў таўшчыню ў бульбіны. Вось коратка тое, што ён кажа аб гэтым: мязга адкладае да надворку лыка, у сярэдзіну драўніну, але гэтае лыка і гэтая драўніна заслугоўваюць сваю назву толькі ў морфолёгічным, а не ў анатамічным і не ў фізіолёгічным сэнсе. У драўніне няма, або амаль што няма валокнаў, ёсьць толькі судзінкі і рэшта тканкі ўяўляе сабою вялікія парэнхімныя каморкі і нічым не адрозьніваецца ад асяродкавіны. Паміж гэтымі каморкамі трапляюцца вязкі судзінкаў. Мязга адкладае да надворку вельмі мала лыка, але ў сярэдзіну вельмі шмат парэнхімных каморак, так што яны па таўшчыні куды большыя за первястковую кару і ўласна асяродкавіну разам. З гэтай прычыны гэтак мяняюцца суадносіны паміж асяродкавінай і первястковаю карой у старых дарослых бульбінах. І дзякуючы гэтаму ў дарослых бульбінах судзінкі раскіданы амаль па ўсёй бульбіне, толькі ўласна асяродкавіна і первястковая кара іх ня маюць. Другі фактар паўторнага росту ў таўшчыню—гэта павялічэньне саміх каморак, асяродкавіны кары, гэтак і каморак асяродкавае парэнхімы (De-Vries стар. 643-644).

Esmarch таксама кажа, што паўторны рост у таўшчыню заключаецца, галоўным чынам у тым, што множацца парэнхімныя каморкі, а самыя с.-в. вязкі атрымліваюць вельмі нязначны прырост. З гэтай прычыны і ксілемная частка разьвіта гэтак слаба (Esmarch стар. 249-250). Пры павялічэньні памеру парэнхімных каморак судзінкі застаюцца такімі самымі. Яны ня могуць расьці, бо вельмі рана драўнінеюць. Лыка тутака складаецца з сітаватых трубак, спадарожных каморак і лыкавае парэнхімы. Лыкавыя валокны тутака амаль не сустракаюцца. Паасобныя самастойныя вязкі, якія знаходзяцца ва ўсіх частках асяродкавіны, складаюцца з флёэмных элемэнтаў. Уласна асяродкавіна бядней на крухмаль і больш вадзяністая.

---

[1]) Падрабязная характарыстыка іх на стар. 47.

## II. ПАРАЎНАЛЬНАЯ АНАТОМІЯ.

„Розныя гатункі адрозьніваюцца паміж сабой не прысутнасьцю, або адсутнасьцю тых ці іншых тканак і нават ня іхняю групоўкаю, а ўсяго толькі зьменаю велічыні сваіх анатомічных элемэнтаў". У гэтым пераканаўся яшчэ Колкунов у сваёй працы па анатомічнаму аналізу розных гатункаў траў і буракоў. У гэтым пераканаліся цяпер мы ў сваёй працы аб параўнальнай анатоміі розных гатункаў бульбы. Усе элемэнгы тканак органаў, якія мы вывучалі, дакладна вымяраліся, пасьля чаго пры параўнаньні атрыманых дадзеных, можна было зрабіць такі вывад.

Параўнальную анатомію пачнём ізноў са сьцябла.

### Сьцябло.

У сьцяблі, калі разглядаць яго пад мікроскопам, яшчэ да вымярэньня паасобных элемэнтаў, войстра кідаецца ў вочы розьніца ў таўшчыні склерэнхімнага пярсьцёнку паміж групай нашых раньніх гатункаў і позьніх.

№ 1.

**Параўнальная таўшчыня склерэнхімнага пярсьцёнку старога сьцябла, выяўленая ў мікронах (дзяленьнях).**

| Абазначэньне гатунку | Назва гатунку | M. | m. | К пры параўнаньні з | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | I | II | III | IV | V | VI | VII | VIII |
| I | Ран. руж. . | 24 | ±0,40 | — | У м. | 2,2 | 3,4 | Па-за м. | 7 | 13,2 | — |
| II | Кар. ран. . | 22,4 | ±0,81 | — | — | 3,4 | — | „ | Па-за м. | 12,1 | — |
| III | Царск. . . | 27 | ±1,14 | — | — | — | У м. | У м. | 3,6 | 7 | — |
| IV | Круг. . . | 30 | ±1,70 | — | — | — | — | „ | У м. | 3,7 | Па-за м. |
| V | Мэркэр . . | 31 | ±1,58 | — | — | — | — | — | „ | 3,4 | „ |
| VI | Імпэр. . . | 33,3 | ±1,26 | — | — | — | — | — | — | 2,5 | 3,2 |
| VII | Зьніч . . | 37,2 | ±0,92 | — | — | — | — | — | — | — | У м. |
| VIII | Вольтман . | 38,8 | ±1,17 | — | — | — | — | — | — | — | — |

Увага: У м. азначае ў межах памылкі досьледу.
Па-за м. азначае па-за межамі памылкі досьледу.
Дадзеныя ўсе ў дзяленьнях. Адное дзяленьне раўно 12,8 м.

**Склерэнхімны пярсьцёнак.** Табліца № 1 паказвае нам, што таўшчыня гэтага пярсьцёнку ў дасьледаваных намі позьніх гатункаў значна большая чымся ў дасьледваных раньніх. Параўноваючы абодва раньнія гатункі—раньні ружовы і каралеўскі раньні, з абодвымі позьнімі—Зьнічам і Вольтманам, мы бачым гэтую выразную розьніцу: сярэдняе арытмэтычнае таўшчыні пярсьцёнку раньняга ружовага 24±0,4, у каралеўскага раньняга 22,4±0,81. У Зьніча 37,2±0,92, у Вольтмана 38.8±1,17. Пры наяўнасьці дадзеных сярэдніх арытмэтычных і пры паказаных памылках досьледу можна адразу сказаць, што розьніца далёка па-за межамі памылкі досьледу. Сапраўды, коэфіцыэнт *K* пры параўнаньні раньняга ружовага са Зьнічам 13,2, пры параўнаньні каралеўскага раньняга са Зьнічам 12,1. Відавочна, што з Вольтманам нават не патрэбна вылічаць гэты коэфіцыэнт. Сярэднія гатутнкі даюць сярэдняе арытмэтычнае таўшчыні склерэнхімнага пярсьцёнку сярэдняе паміж гэтымі раньнімі і позьнімі гатункамі. Гэтая самая табліца паказвае, што таўшчыня гэтага пярсьцёнку зусім законаамерна мяняецца ад раньніх праз сярэднія да позьніх. Паглядзімо цяпер адносіны да гэтае адзнакі сярэдніх гатункаў (кожнага паасобку), ці ёсьць у іх розьніца. Царскі або народны, дае з каралеўскім раньнім розьніцу па-за межамі памылкі досьледу (K=3,4), з раньнім ружовым у межах памылкі (2,2), Кругэрам і Мэркэрам у межах памылкі, з Імпэратарам ужо па-за межамі яе, са Зьнічам і Вольтманам далёка па-за межамі памылкі досьледу.

Такім чынам мы можам сказаць, што па гэтай адзнацы Царскі, хаця і зьяўляецца сярэднім гатункам, але бліжэй адхіляецца да раньніх, чымся іншыя сярэднія гатункі.

Кругэр і Мэркэр даюць розьніцу з Царскім і Імпэратарам у межах памылкі, з абодвымі раньнімі і абодвымі позьнімі па-за межамі памылкі досьледу, такім чынам уваходзячы ў адную групу сярэдніх з Царскім і Імпэратарам, яны не адхіляюцца па гэтай адзнацы ні да раньніх, ні да поьзніх.

Нарэшце адносіны Імпэратара да позьніх якраз такія самыя, як Царскага да раньніх, гэта значыць што ён дае розьніцу з адным позьнім (Вольтманам) па-за межамі памылкі, з другім (Зьнічам) у межах, з раньнімі далёка па-за межамі, з Кругэрам і Мэркэрам у межах памылкі досьледу, гэта значыць, гэты гатунак, ствараючы па гэтай адзнацы адную групу з сярэднімі, адхіляецца бліжэй да позьніх гатункаў. Такім чынам, групу дасьледваных намі сярэдніх гатункаў мы па гэтай адзнацы можам разьбіць на некалькі падгрупаў: І. Сярэдня-раньніх, II Сярэдніх, III, Сярэдня-позьніх.

Два гатункі—раньні ружовы і каралеўскі раньні—пападаюць у адную групу раньніх гатункаў, прычым больш раньнюю прыроду выяўляе па гэтай адзнацы каралеўскі раньні і апошнія 2 гатункі—Зьніч і Вольтман—у адную групу позьня-сьпелых гатункаў, прычым найбольш позьнюю прыроду выяўляе Вольтман. Такім чынам па гэтай адзнацы можна ўсе гатункі, якія вывучаюцца намі, разьмеркаваць ад раньніх да позьніх у наступным парадку: Каралеўскі раньні, Раньні ружовы, Царскі, Кругэр, Мэркэр, Імпэратар, Зьніч і Вольтман.

У асноўным такі самы вывад мы можам зрабіць пры параўнаньні таўшчыні склерэнхімнага пярсьцёнку, выяўленага ў радох. Дробныя адступленьні атрымліваюцца толькі пры групоўцы нашых гатункаў. Абодва раньнія ізноў складаюць адную групу, таксама як і абодва позьнія. Сярэднія даюць наступнае суадношаньне: з табліцай № 2 № і 3.




Мал. № 31.




Мал. № 32.

Малюнак № 31 — **Раньні ружовы.** Малюнак № 32 — **Зьніч.** Проба III срока.

Папярэчны разрэз праз склерэнхімны пярсьцёнак старога сьцябла. (Вузкая частка). Павяліч. 172. Склерэнхіма намалевана поўсхэматычна. 1. Эндодэрма. 2. Лыкавае валакно. 3. Мяккае лыка. 4. Склерэнхіма. 5. Асяродкавы прамень. (паўтоны).

№ 23.

## Памеры элемэнтаў розных тканак старога сьцябла.

| Гатункі / тканкі | Раньні руж. | Кар. ран. | Царск. | Круг. | Мэркэр | Імпэр. | Зьніч | Вольт. |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| **Эпідэрміс** | | | | | | | | |
| рад. дм. кам. | 45,3 | 29,8 | 25,7 | 31,9 | 49,6 | 22,6 | 33,5 | 40 |
| танг. „ „ | 72,5 | 47,1 | 42,5 | 44,3 | 72,2 | 47,4 | 57,6 | 67 |
| прад. „ „ | 82,5 | 64,5 | 68,8 | 108,5 | 67,3 | 49,6 | 96,7 | 88 |
| таўшч. бак. сьцен. | 1,5 | 1,9 | 1,5 | 1,5 | 1,5 | 1,8 | 1,5 | 2,1 |
| **падскур сл.** | | | | | | | | |
| рад. дмт. | 52,1 | 53,9 | 38,1 | 38,1 | 47,4 | 31 | 32,2 | 42,8 |
| танг. „ | 81,8 | 48,3 | 53,6 | 64,2 | 52,7 | 79,8 | 56,4 | 75,3 |
| прад. „ | 76,9 | 37,2 | 55,8 | 82,1 | 51,8 | 41,2 | 42,6 | 86,8 |
| **Каленхіма.** | | | | | | | | |
| таўшчыня пярсьц. | 101,4 | 158,1 | 144,6 | 247 | 234,2 | 281,6 | 116,9 | 157,5 |
| папяр. дыям. кам. | 38,4×38,4 | 37,1×38,1 | 37,2×34,1 | 24,8×31 | 64×64 | 38,1×38,1 | 46,5×37,2 | 38,7×48 |
| прад. „ „ | 291,8 | 286,7 | 358 | 281,6 | 137 | 175,8 | 280 | 240,6 |
| **парэнх. перв. кар.** | | | | | | | | |
| папяр. дыям. кам. | 138,2×115,2 | 133,1×138,2 | 85,8×102,4 | 89,6×119 | 140,8×157,4 | 93,4×67,8 | 133,1×135,7 | 153,6 |
| прад. „ „ | 304,6 | 174,1 | 172 | 277,8 | 131,8 | 144,6 | 281,6 | 771,5 |
| **Эндадэрма.** | | | | | | | | |
| рад. дыям. | 44,6 | 50,2 | 42,5 | 43,4 | 52,7 | 37,2 | 52,7 | 40,3 |
| танг. „ | 92,2 | 118,4 | 65,1 | 90,8 | 99,2 | 132,4 | 122,8 | 97,2 |
| прад. „ | 89,9 | 65,7 | 77,7 | 59,8 | 77,5 | 74,4 | 96,1 | 73,2 |
| **Недраўнін. валокны.** | | | | | | | | |
| папярэч. дыям. | 16,1×29,1 | 41,5×27,9 | 16,4×30,1 | 11,5×27 | 35×43,4 | 33,2×13,3 | 29,8 | 21,2 |
| таўшчыня сьцен. | 6,2 | 8,1 | 6,2 | 6,2 | 8,4 | 8,4 | 6,2 | 8,1 |
| даўжыня валокн. | — | — | — | — | — | — | — | 2240 |
| **склерэнхіма вал. пярсьц.** | | | | | | | | |
| **вялікі памер** | | | | | | | | |
| мал. дыямэтр | 17,7×22,9 | 18×26,3 | 17,7×23,9 | 14,6×19,5 | 19,5×22,6 | 15,5×19,5 | 15,8×18 | 18 |
| рад. сьцен. | 1,9 | 2,1 | 2,1 | 2,1 | 1,9 | 2,1 | 1,9 | 2,1 |
| тангэнт. | 2,2 | 2,1 | 2,5 | 2,3 | 2,3 | 2,5 | 2,2 | 2,5 |
| сяр. узр. — дыямэтр | 15,5×21,7 | 21,1×25,4 | 14,6×19,5 | 18,6×20,8 | 16,4×22,6 | 17,7×20,7 | 12,4×18,6 | 17,4 |
| сяр. узр. — рад. сьценак | 3,4 | 4,3 | 3,7 | 3,7 | 4 | 4 | 4 | 4,3 |
| сяр. узр. — танг. | 4 | 4,6 | 4,6 | 4,3 | 4 | 4,3 | 4,3 | 4,3 |
| Старыя: — дыям. | 11,2×17,7 | 24,8×26 | 19,5×19,5 | 16,4×17,7 | 22,6×20,8 | 20,7 | 10,5×17,4 | 19,2 |
| Старыя: — рад. сьцен. | 5,6 | 5,6 | 5,6 | 5,3 | 5,3 | 5,6 | 5,6 | 5,6 |
| Старыя: — тангэнт. | 5,3 | 5,9 | 5,9 | 5,6 | 5,6 | 5,9 | 5,6 | 5,9 |
| **Сярэдні памер.** | | | | | | | | |
| малад. дыямэт. | 12,1×14,6 | 12,4×12,1 | 12,4×15,5 | 11,5×14,6 | 13,3×16,4 | 11,5×12,4 | | 10,5×13,3 |
| сярэдн. „ | 13,9×15,5 | 12,4×11,8 | 10,2×14,6 | 11,5×13,3 | 12,4×13,3 | 14,7×9,3 | 10,6×10,6 | 11,2 |
| стар. „ | 9,9×13 | 14,9×14,3 | 15,5×15,5 | 13,4 | 16,4×13,3 | 11,5×12,4 | | 9,3 |
| даўжыня склер. в. | — | 480 | — | — | — | — | — | 512 |
| **Асяродк. пар.-ма.** | | | | | | | | |
| папяр. дыям. | 135,7×122,9 | 243,2×256 | 213,8×264,9 | 183×202 | 166,4×192 | 166,4×140,8 | 233×240 | 238,1 |
| прад. „ | 179,2 | 110,1 | 119 | 111,4 | 192 | 108,8 | 222,7 | 151 |
| стасунак L:l | 0,88 | 0,86 | 0,91 | 0,88 | 0,90 | 0,90 | 0,87 | 0,88 |

L=Дыямэтр восяв. цыліндру
l=Дыямэтр усяго сьцябла

Увага: усе дадзеныя ў мікронах..

**Параўнальная таўшчыня склерэнхімнага пярсьцёнку старога сьцябла, выяўленага ў радох.** № 2.

| Абазначэньне гатунку | Назва гатунку | M. | m. | К пры параўнаньні з | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | I | II | III | IV | V | VI | VII | VIII |
| I | Ран. руж. . | 16,6 | ±0,51 | — | У м. | 6,5 | 9,5 | 6,2 | Па-за м. | Па-за м. | Па-за м |
| II | Кар. ран. . | 16,2 | ±0,59 | — | — | 6,7 | Па-за м. | Па-за м. | " | " | " |
| III | Царск. . . | 22,6 | ±0,75 | — | — | — | 2,3 | У м. | У м. | 5,9 | 3,5 |
| VI | Круг. . . | 25 | ±0,71 | — | — | — | — | 1,7 | " | 3,2 | 1,4 |
| V | Мэркэр . . | 23 | ±0,89 | — | — | — | — | — | 1,4 | 4,7 | 2,9 |
| VI | Імпэр. . . | 24,6 | ±0,68 | — | — | — | — | — | — | 3,8 | 1,6 |
| VII | Зьніч . . | 27,6 | ±0,40 | — | — | — | — | — | – | — | У м. |
| VIII | Вольтман . | 26,6 | ±0,87 | — | — | — | — | — | — | — | — |

Царскі, Кругэр, Мэркэр і Імпэратар складаюць агульную групу, прычым Царскі не адхіляецца ні да раньніх ні да позьніх, а Кругэр, Мэркэр і Імпэратар складаюць падгрупу сярэдня-позьніх.

Аб маладым сьцяблі няма дадзеных адносна Царскага, таму што ня было тае стадыі разьвіцьця, якая бралася ў іншых гатункаў. Усе астатнія гатункі пацьвярджаюць галоўны вывад, зроблены адносна склерэнхімы старога сьцябла. Тутака толькі не ўдаецца разьбіць сярэднія гатункі на пэўныя падгрупы.

№ 3.

**Параўнальная таўшчыня склерэнхімнага пярсьцёнку маладога сьцябла, выяўленага ў мікронах (дзяленьнях).**

| Абазначэньне гатунку | Назва гатунку | M. | m. | К пры параўнаньні з | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | I | II | III | IV | V | VI | VII | VIII |
| I | Ран. руж. . | 11,2 | ±0,37 | — | У м. | — | 3,8 | Па-за м. | Па-за м. | Па-за м. | Па-за м. |
| II | Кар. ран. . | 10,4 | ±0,98 | — | — | — | 3 | 3,1 | 3,3 | " | 7 |
| III | Царск. . . | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — |
| IV | Круг. . . | 13,7 | ±0,54 | — | — | — | — | У м. | У м. | Па-за м. | Па-за м. |
| V | Мэркэр . . | 13,7 | ±0,44 | — | — | — | — | — | " | " | " |
| VI | Імпэр. . . | 14,3 | ±0,67 | — | — | — | — | — | — | 4,2 | 4,5 |
| VII | Зьніч . . | 20,5 | ±0,31 | — | — | — | — | — | — | — | 1,9 |
| VIII | Вольтман . | 17,8 | ±0,38 | — | — | — | — | — | — | — | — |

Увага: Усе дадзеныя ў дзяленьнях, адное дзяленьне раўно 3,1 м.

№ 4.

**Параўнальная таўшчыня склерэнхімнага пярсьцёнка маладога сьцябла, выяўленага ў радох.**

| Абазначэньне гатунку | Назва гатунку | M. | m. | К пры параўнаньні з | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | I | II | III | IV | V | VI | VII | VIII |
| I | Ран. руж. . | 2 | ±0,31 | — | — | — | 2,3 | у м. | 2,3 | 4,7 | 4,2 |
| II | Кар. ран. . | 2 | ±0,31 | — | — | — | 2,3 | „ | 2,3 | 4,7 | 4,2 |
| III | Царск. . . | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — |
| IV | Круг. . . | 3 | ±0,31 | — | — | — | — | у м. | у м. | 2,1 | у м. |
| V | Мэркэр . . | 2,5 | ±0,23 | — | — | — | — | — | „ | 4,3 | 3,5 |
| VI | Імпэр. . . | 3 | ±0,31 | — | — | — | — | — | — | 2,1 | у м. |
| VII | Зьніч . . | 3,8 | ±0,2 | — | — | — | — | — | — | — | „ |
| VIII | Вольтман . | 3,5 | ±0,16 | — | — | — | — | — | — | — | — |

Што датычыцца разьвіцьця моцы склерэнхімнага пярсьцёнку з узростам у розных гатункаў, трэба сказаць (Гл. табл. № 19), што таўшчыня гэтага пярсьцёнку павялічваецца ва ўсіх гатунках, якія вывучаліся намі, амаль зусім аднолькава, за выключэньнем зьніча. Такім чынам, істотная розьніца ў абсолютных дадзеных, якія выяўляюць таушчыню пярсьцёнкаў.

**Таўшчыня верхняе сьценкі эпідэрміса.** Наступнаю адзнакай, па якой адрозьніваецца адна група дасьледваных намі гатункаў ад другое, зьяўляецца ў акрыцьцёвай тканцы сьцябла—эпідэрмісе, таўшчыня яго верхняе сьценкі.

**Параўнальная таўшчыня верхняе сьценкі эпідэрміса старога сьцябла.** № 5.

| Абазначэньне гатунку | Назва гатунку | M. | m. | К пры параўнаньні з | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | I | II | III | IV | V | VI | VII | VIII |
| I | Ран. руж. . | 0,62 | ±0,03 | — | у м. | 3 | 4 | 3,3 | 5,5 | 6,3 | 9 |
| II | Кар. ран. . | 0,66 | ±0,05 | — | — | 2 | 3,3 | 2,7 | 4,1 | 5,8 | 6 |
| III | Царск. . . | 0,8 | ±0,05 | — | — | — | у м. | у м. | 2,1 | 4 | 5,7 |
| IV | Круг. . . | 0,9 | ±0,06 | — | — | — | — | „ | у м. | 3 | 5 |
| V | Мэркэр . . | 0,85 | ±0,06 | — | — | — | — | — | „ | 3,5 | Па-за м |
| VI | Імпэр. . . | 0,95 | ±0,05 | — | — | — | — | — | — | 2,5 | 4,6 |
| VII | Зьніч . . | 1,2 | ±0,08 | — | — | — | — | — | — | — | 2,7 |
| VIII | Вольтман . | 1,0 | ±0,13 | — | — | — | — | — | — | — | — |

Увага: Усе дадзеныя ў дзяленьнях, адное дзяленьне раўно 3,1 м.

## Адносныя памеры некаторых тканак.

| ТКАНІ | ГАТУНКІ | Раньні ружовы | Каралеўск. раньні | Царскі | Кругер | Мэркер | Імпэратар | Зьніч | Вольтман |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Каморкі Эпідэрмісу | Маладое сьцябло . | 1:1, 1:5,1 | 1:0, 9:1,9 | | 1:1,2:0,8 | 1:1, 2:1,6 | 1:1, 3:4 | 1:1 1:3,3 | 1:1, 2:2,3 |
| | Старое „ . . | 1:1, 6:1,8 | 1:1, 6:2,2 | 1:1,6:2,7 | 1:1,4:3,4 | 1:1, 5:1,4 | 1:1, 1:2.2 | 1:1 7:2,9 | 1:1, 7:2.2 |
| | Сталён. . . . | 1:0, 6:2,6 | 1:0, 7:2,5 | 1:0,8:3,3 | 1:0,9:3,2 | 1:0, 8:4,6 | 1:2, 7:2,2 | 1:0 8:5 | 1:0, 9:3,2 |
| Падскур. слоя | Маладое сьцябло . . | 1:0,8:5,2 | 1:0, 7:0,6 | | 1:1, 4.1,3 | 1:1 5:1,2 | 1:1. 3:3,6 | 1:1, 3:3,4 | 1:1, 2:2,5 |
| | Старое . . . | 1:1. 6:1,5 | 1:0, 9:0,7 | 1:1,4:1,5 | 1:1, 7:2,1 | 1:1 1:1,1 | 1:1, 9:1,2 | 1:1, 7:4,4 | 1:1, 7:2,3 |
| Калленхімы | Старое сьцябло . . | 1:1:7,6 | 1:1, 7,7 | 1;1,1:10,5 | 1:1,2:11,3 | | 1:1, 4:6 | 1:1, 2:7,5 | 1:1, 2:6,2 |
| | Сталён . . . | 1:1:8,4 | 1:1:4,2 | 1:1,1:14 | 1:1'1:4,9 | 1:1:6,1 | 1:1, 2:7,5 | 1:1, 1:2,9 | 1:1, :2,7 |
| Первяст. кар (парэнхімы | Маладое сьцябло . . | 1:1,0, 5:1,2 | 1:1:1,5 | | 1:1,3:3,2 | 1:1:3,8 | 1:1, 1:5,1 | 1:1:3,4 | 1:1:1,9 |
| | Старое „ . . | 1:1, 2:2,6 | 1:1:3 | 1:1,2:2,2 | 1:1,3:3,1 | 1:1, 1:0,9 | 1:1, 4:2,1 | 1:1:2,1 | 1:1:1,1 |
| | Сталён . . . | 1:1, 2:3,1 | 1:1:2,6 | 1:1:5,8 | 1:1,2:3,3 | 1:1, 2:3,2 | 1:1, 2:3,3 | 1:1, 2:2,7 | 1:1:1,7 |
| Эндодэрмы | Маладое сьцябло . . | 1:1, 4:2,8 | 1:15:2,5 | | 1:2,1:2,4 | 1:1. 4:3 | 1;1,3:2 | 1:1, 7:3,1 | 1:1, 3:1,3 |
| | Старое „ . . | 1:2, 2:2 | 1:2,3:1,3 | 1:1,5:1,8 | 1:2,1:1,4 | 1:1. 9:1,5 | 1:3,5;2 | 1:2, 1:1,1 | 1:2, 6:1,8 |
| | Сталён . . | 1:1, 4:4,5 | 1:2,9:3,8 | 1:2:3,8 | 1:1,2:3,3 | 1:1, 5:3,3 | 1:1,8:3.8 | 1:1, 4:3 | 1:1, 4:2 |
| Асяродк. парэнхімы | Маладое сьцябло . . | 1:1,1,4 | 1:1,0,7 | | 1:1,1:1,1 | 1:1, 1:8 | 1:1, 1:2.3 | 1:1,1 | 1:1:1,7 |
| | Старое „ . . | 1:1, 1,1:1,4 | 1:1:0,4 | 1:1,2:0,5,0 | 6 1:1, 1:1,1 | 1:1, 2:0,8 | 1:1, 1:0,6 | 1:1:0,9 | 1:1:0,6 |
| | Сталён . . . | 1:1, 1:5 | 1:1:2,7 | 1:1,2,8 | 1:1, 4:1,6 | 1:1, 1:1,9 | 1:1, 2,7 | 1:1, 1:4,1 | 1:1:1,3 |
| Патаўшчэньне калленхімн пярсьцёнку сьцябля з узростам . . . . | | Не меняецца | у 1,3 разы | | у 1,8 р. | у 2 разы | у 3,2 р. | не мяняецца | у 1,4 |
| Патаўшчэньне склерэнх. пярсьц. сьцябла з узрост. . . . . . | | 8,9 | „ 8,9 „ | | „ 9,1 „ | „ 9,3 „ | „ 9,6 „ | у 7 раз | „ 9 р. |
| Крухмальныя зярняткі | Буйныя . . . . | 1:1,8 | 1:1,3 | 1:1,5 | 1:1,2 | 1:1,4 | 1:1,6 | 1:1,3 | 1:1,2 |
| | Сярэднія . . . | 1:1,2 | 1:1,1 | 1:1,5 | 1:1,4 | 1:1,3 | 1:1,6 | 1:1,6 | 1:1,1 |
| | Дробныя . . . . | 1:1,1 | 1:1,1 | 1:1,3 | 1:1,3 | 1:1,3 | 1:1,3 | 1:1,2 | 1:1,1 |

З табліцы мы бачым пэўную заканамернасьць у зьмене таўшчыні верхняе сьценкі эпідэрміса, менавіта—яна робіцца таўсьцейшай ад раньніх праз сярэднія да позьніх, прычым розьніца па гэтай адзнацы паміж нашымі раньнімі і позьнімі гатункамі вялікая [1]).

З абодвых раньніх гатункаў больш раньнюю прыроду выяўляе раньні ружовы; з абодвых позьніх самую позьнюю прыроду выяўляе па гэтай адзнацы Вольтман. Усе сярэднія — Царскі, Кругэр, Мэркэр і Імпэратар, складаючы адную групу, разьбіваюцца зноў на падгрупы, прычым Царскі пападае ў падгрупу сярэдня-раньніх, Кругэр і Імпэратар — сярэдня-позьніх, толькі Мэркэр не дае адхіленьня ні ў той, ні ў другі бок. Па гэтай адзнацы можна разьмеркаваць гатункі па скарасьпеласьці ў наступны рад: раньні ружовы, Каралеўскі раньні, Царскі, Мэркэр, Кругэр, Імпэратар, Зьніч і Вольтман.

№ 6.

**Параўнальная таўшчыня кутыкулі старога сьцябла.**

| Абазначэньне гатунку | Назва гатунку | M. | m. | К пры параўнаньні з | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | I | II | III | IV | V | VI | VII | VIII |
| I | Ран. руж. . | 1,28 | ±0,03 | — | 2,5 | 3,6 | 4,3 | 3,8 | 4 | 3,7 | 3,4 |
| II | Кар. ран. . | 1,00 | ±0,08 | — | — | У м. | 1,5 | У м. | 1,8 | У м. | 1,3 |
| III | Царск. . . | 0,95 | ±0,05 | — | — | — | У м | У м. | 1,7 | „ | У м. |
| IV | Круг. . . | 0,85 | ±0,06 | — | — | — | — | У м. | У м. | У м. | У м. |
| V | Мэркэр . . | 0,90 | ±0,06 | — | — | — | — | — | „ | „ | „ |
| VI | Імпэр. . . | 0,76 | ±0,1 | — | — | — | — | — | — | „ | „ |
| VII | Зьніч . . | 0,87 | ±0,08 | — | — | — | — | — | — | — | „ |
| VIII | Вольтман . | 0,83 | ±0,11 | — | — | — | — | — | — | — | — |

Увага: Адно дзяленьне раўно 3,1 μ.

**Таўшчыня кутыкулі.** З гэтай табліцы відаць, што розьніца ў таўшчыні кутыкулі ў розных гатункаў скрадваецца памылкай досьледу. Толькі адзін гатунак раньні ружовы выдзяляецца ад іншых гатункаў больш тоўстай кутыкуляй.

**Таўшчыня парэнхімы перваст. кары.** Зварачае на сябе ўвагу таўчшыня парэнхімы першастковае кары ў розных гатунках. Відавочна, гэта ўжо ня групавая адзнака, а чыста гатункавая, якая ня мае непасрэднага дачыненьня да скарасьпеласьці або позьнясьпеласьці гатунку, значыцца, у адную групу можа папасьці як раньні, гэтак і позьні гатунак. Парэнхіма первастковае кары ў некаторых гатункаў дае пярсьцёнак ня шырокі, але больш раўнамерна разьвіты, у іншых гатункау шырэйшы, але разьвіты нераўнамерна, ад чаго атрымліваюцца даволі значныя ваганьні.

[1]) Увага: цяпер усюды будуць прываддзіцца толькі вывады з табліц, таму што поўнае тлумачэньне, як па іх разьбірацца, дадзена пасьля першае табліцы.

№ 7.

**Параўнальная таўшчыня пярсьцёнку парэнхімы пярвястковае кары старога сьцябла.**

| Абазначэньне гатунку | Назва гатунку | M. | m. | К пры параўнаньні з | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | I | II | III | IV | V | VI | VII | VIII |
| I | Ран. руж. . | 26,4 | ±3,67 | — | У м. | 2,8 | У м. | У м. | 3,2 | 1,5 | 2,1 |
| II | Кар. ран. . | 19,4 | ±1,08 | — | — | У м. | 7,7 | 2,2 | 4 | 4,7 | Па-за м. |
| III | Царск. . . | 15 | ±1,84 | — | — | — | 7,6 | 2,9 | У м. | 5,5 | " |
| IV | Круг. . . | 31,7 | ±1,16 | — | — | — | — | У м. | 12,2 | У м. | 3,6 |
| V | Мэркэр . . | 32,5 | ±5,76 | — | — | — | — | — | 3,2 | У м. | 2,2 |
| VI | Імпэр. . . | 14 | ±0,83 | — | — | — | — | — | — | 6,7 | Па-за м. |
| VII | Зьніч. . . | 33,4 | ±2,75 | — | — | — | — | — | — | — | 2,8 |
| VIII | Вольтман . | 49 | ±4,78 | — | — | — | — | — | — | — | — |

Увага: Адное дзяленьне раўно 12,8. μ.

Розьніца нашых раньніх гатункаў і позьніх тутака скрадваецца памылкаю досьледу. У тых і іншых парэнхіма первястковае кары ўтварае шырокі, нераўнамерны пярсьцёнак. Такі самы пярсьцёнак утвараюць гатункі Мэркэр і Кругэр. Самай малой таўшчынёю гэтага пярсьцёнку адрозьніваецца Імпэратар і Царскі; крыху таўсьцей апошніх пярсьцёнак парэнхімы первястковае кары ў „Каралеўскага раньняга".

**Форма каморак падскуранога слою.** Да ліку гатункавых адзнакаў сьцябла можна аднесьці форму каморак падскуранога хлёрафіляноснага слою. Розныя лічбы, якія выяўляюць памеры ў розных напрамках дыямэтраў аднае і тае самае каморкі падскуранога слою ў розных гатункаў па табл. № 19 выяўляюць сабою ні што іншае, як розную форму каморак гэтага слою ў розных гатункаў. Большасьць гатункаў вывучаных намі (сярэднія і позьнія) ў папярэчным разрэзе маюць каморкі больш выцягнутыя ў тангэнтальным напрамку (1:1,4. 1:1,5. 1:1,3 і г. д.), прычым некаторыя з іх у ўздоўжным, трэцім напрамку маюць больш падоўжаныя каморкі, (Зьніч і Вольтман), іншыя менш падоўжаныя (Кругэр і Мэркэр). Разьвіцьцё каморак з узростам у гэтых гатункаў ідзе крыху па рознаму. Вось у Зьніча і Кругэра разьвіцьцё ідзе ў бок падоўжаньня каморак і патаўшчэньня ў тангэнтальным напрамку. У Вольтмана — патаўшчэньне ў тангэнтальным напрамку бяз зьмены адноснае даўжыні каморкі, у Мэркэра — і адноснага скарачэньня і патаўшчэньня ў тангэнтальным напрамку. У Імпэратара — у бок адноснага скарачэньня, але павялічэньня памераў у тангэнтальным напрамку. Таксама, як у гэтага гатунку ідзе разьвіцьцё каморкі і ў раньняга ружовага. Але гэты апошні гатунак адрозьніваецца іншай формай каморкі ў маладым узросьце, таксама, як і Каралеўскі раньні. Менавіта, ў раньняга ружовага ў маладым узросьце каморка расьцягнута болей у радыяльным напрамку, але зьяўляецца вельмі доўгай. У Каралеў-

скага раньняга яна расцягнута таксама у радыяльным напрамку, але без усялякіх скачкоў — форма яе амаль зусім не мяняецца. Даволі стракаты малюнак у сэнсе разьвіцьця каморак дарослага сьцябла дае эпідэрміс і парэнхіма первястковае кары. Каморкі эпідэрміса ў двух гатункаў (Каралеўскі раньні і Кругэр) разьвіваюцца ў бок і падоўжаньня каморак і павялічэньня памераў у тангэнтальным напрамку. У Мэркэра і Вольтмана каморкі, не мяняючыся адносна ў даўжыню, разьвіваюцца ў тангэнтальным напрамку. У Імпэратара і Зьніча пры адносным пакарачэньні каморак мы назіраем тое самае павялічэньне памераў у тангэнтальным напрамку. (Аб раньнім ружовым гаварылася пры агульным апісаньні). Каморкі парэнхімы первястковае кары ў Мэркэра, Зьніча і Вольтмана, не мяняючыся ў таўшчыню, адносна пакарачваюцца. У Імпэратара таксама крыху пакарачваюцца, павялічваючыся ў тангэнтальным напрамку. У Каралеўскага раньняга і Кругэра амаль не зьмяняюцца. У раньняга ружовага робячыся крыху таўсьцей развіваюцца болей у даўжыню. Каморкі асяродкавае парэнхімы ў трох гатункаў пры разьвіцьці зусім не мяняюць свае формы (раньні ружовы Кругэр, Зьніч) у чатырох гатункаў, не мяняючыся адносна ў даўжыню — скарачаюцца (Каралеўскі раньні, Мэркэр, Імпэратар і Вольтман). Нарэшце каморкі эндодэрмы амаль ва ўсіх гатунках разьвіваюцца аднолькава, менавіта ў бок павялічэньня памераў ў тангэнтальным напрамку і адноснага скарачэньня каморак, толькі ў Кругэра каморкі адносна скараціліся не мяняючыся ў таўшчыню, у Імпэратара зьмяніліся ў тангэнтальным напрамку, не мяняючыся ў даўжыню і ў Вольтмана пры павялічэньні памераў у тангэнтальным напрамку, таксама крыху падоўжыліся. Адносна такой важнай у жыцьці расьліны тканкі, як праводная, трэба зазначыць, што анатомічныя элемэнты гэтае тканкі не падлягалі дакладнаму колькаснаму падліку з наступнай прычыны: гэтая тканка да таго вялікая, яна складаецца з такога ліку паасобных элемэнтаў, што дакладнае і падрабязнае колькаснае абсьледаваньне іх па ўсіх напрамках самым дэталёвым чынам можа і павінна заняць шмат часу і ўвагі, што аказался фызычна немагчымым пры нашай працы. Уціснуць-жа яе ў нашую працу з некаторым толькі павярхоўным вывучэньнем мы лічым невыстарчальным. Мы можам толькі высунуць дэталёвае вывучэньне праводнае тканкі розных гатункаў бульбы паасобнай тэмай у далейшым.

Перш чым скончыць аб параўнальнай анатоміі тканак сьцябла, трэба сказаць некалькі слоў аб крухмале і шчавелева-кіслым кальцыі, які ў ім знаходзіцца. У сьцяблі ўсіх гатункаў, за выключэньнем аднаго раньняга ружовага, есьць і крухмаль (неслаёвы і дробны) і шчавелева-кіслы кальцы ў выглядзе крышталяватага пяску, які напаўняе цэлую каморку галоўным чынам у парэнхіме первястковае кары і асяродкавай парэнхіме. Колькасныя суадносіны паміж адным і другім удалося выразна высьветліць толькі на Каралеўскім раньнім гатунку; у маладым сьцяблі гэтага гатунку знаходзіцца шмат крухмалю, які групуецца галоўным чынам у тэй частцы парэнхімы, якая непасрэдна прылягае да судзінкава - валакнянае вязкі. Досыць поўна шчавелевакіслага калцыя сустракаецца ва ўсёй парэнхіме ў выглядзе крышталяў і друзаў. У тых каморках, дзе ёсьць крышталі кальцыя, крухмальныя зярняткі куды драбней за іншыя. У старой частцы сьцябла крухмаль зусім зьнік, затое паражаіць знахаджэньне ў ім масы шчавелева-кіслага кальцыя, раскіданага па ўсім сьцяблі ў выглядзе друзаў і паасобных вялікіх крышталяў октаэдрычнае формы.

## Ліст.

Тутака рабіўся дакладны колькасны падлік усіх тканак ліставога пластку. У акрыцьцёвай тканцы дае вялікую розьніцу ўзвышчэньне прадушынкі па-над паасобнымі каморкамі споднягa эпідэрміса.

№ 9.

**Параўнальнае ўзвышэньне прадушынак спродняга эпідэрміса ліста.**

| Абазначэньне гатунку | Назва гатунку | M. | m. | К пры параўнаньні з | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | I | I | III | IV | V | VI | VII | VIII |
| I | Ран. руж. . | 2 | ±0,23 | — | 1,0 | У м. | 2,6 | 3,5 | 4,3 | 5,3 | 5,5 |
| II | Кар. ран. . | 2,3 | ±0,20 | — | — | У м. | У м. | 2,9 | 3,4 | 5,2 | 4,6 |
| III | Царск. . . | 2,7 | ±0,38 | — | — | — | У м. | У м. | У м. | 2,0 | 2,1 |
| IV | Круг. . . | 3 | ±0,32 | — | — | — | „ | „ | „ | У. м | У м. |
| V | Мэркэр . . | 3,2 | ±0,25 | — | — | — | — | — | „ | „ | „ |
| VI | Імпэр. . . | 3,3 | ±0,20 | — | — | — | — | — | — | „ | „ |
| VII | Зьніч . . | 3,5 | ±0,16 | — | — | — | — | — | — | — | „ |
| VIII | Вольтман . | 3,6 | ±0,19 | — | — | — | — | — | — | — | — |

Увага: Адное дзяленьне раўно 3, 1 μ.

**Узвышэньне ліставых прадушынак.**

Першы асноўны вывад, які можна зрабіць адносна таб. № 9 будзе наступны: у дасьледаваных намі позьніх гатунках прадушынкі разьмешчаны на большым узвышэньні, чымся ў нашых раньніх. Гэта дае нам права сказаць, што нашыя раньнія гатункі па гэтай адзнацы крыху адхіляюцца ў параўнаньні з нашымі позьнімі ў бок ксераморфнасьці, бо вядома, што ў сапраўдных ксерафітаў прадушынкі разьмешчаны ў паглыбленьнях, у ямках *(Вармінг)*. Як можна цяпер па гэтай адзнацы згрупаваць нашыя гатункі? Абодва раньнія складуць адную групу, таксама як і абодва позьнія адную, прычым больш раньнюю прыроду з гэтых абодвых выявіў раньні ружовы, больш позьнюю з абодвых позьніх — Вольтман. Што датычыцца сярэдніх гатункаў, то тутака зрабіць дакладную групоўку з усіх гатункаў нельга. Толькі Імпэратар і Мэркэр можна аднесьці ў падгрупу сярэдня-позьніх. Царскі-ж і Кругэр у гэтых адносінах застаюцца нявызначанымі. Па гэтай адзнацы мы можам скласьці наступны рад гатункаў па скарасьпеласьці: раньні-ружовы, Каралеўскі-раньні, Царскі, Кругэр, Мэркэр, Імпэратар, Зьніч і Вольтман.

№ 10.

**Параўнальня слупкаватасьць каморак парканістае парэнхімы ліста.**

| Абазначэньне гатунку | Назва гатунку | M. | m. | К пры параўнаньні з | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | I | II | III | IV | V | VI | VII | VIII |
| I | Ран. руж. . | 4,1 | ±0,3 | — | у м. | у м. | 5,3 | 3 | 3,3 | 3,4 | 3,9 |
| II | Кар. ран. . | 4,41 | ±0,37 | — | — | 1,7 | 5,1 | 3,3 | 3,4 | 3,6 | 3,8 |
| III | Царск. . . | 3,62 | ±0,31 | — | — | — | 3,1 | 1,7 | 1,6 | 2 | 2,1 |
| IV | Круг. . . | 2,44 | ±0,1 | — | — | — | — | 1,9 | 6 | 1,7 | 3 |
| V | Мэркэр . . | 2,92 | ±0,25 | — | — | — | — | — | у м. | у м. | у м. |
| VI | Імпэр. . . | 3,1 | ±0,04 | — | — | — | — | — | — | 1,1 | 1,6 |
| VII | Зьніч . . | 2,85 | ±0,22 | — | — | — | — | — | — | — | у м. |
| VIII | Вольтман . | 2,9 | ±0,12 | — | — | — | — | - | — | — | — |

**Парканістая парэнхіма.** У гэтай табліцы прыведзены лічбы, якія выяўляюць адносіны доўгага дыямэтру (вышыні) каморкі парканістае парэнхімы да яе кароткага дыямэтру (шырыні). Гэтыя суадносіны паказваюць, большую ці меншую слупкаватасьць каморкі. Дасьледаваныя намі раньнія гатункі адрозьніваюцца больш вялікім разьвіцьцём каморак парканістае парэнхімы ў вышыню, г. зн. іхняю большаю слупкаватасьцю, у той час як позьнія гатункі даюць адносна карацейшыя і шырэйшыя каморкі. Адносіны большага дыямэтру да меншага ў раньніх 4,1±0,3 і 4,41±0,37 у позьніх—2,85±0,22 і 2,9±0,12. Па гэтай адзнацы напрашваецца вывад, што раньнія гатункі адхіляюцца ў бок ксераморфнасьці ў параўнаньні з позьнімі. Як кажа Вармінг: „характэрным для ксэрафітаў аказваецца надзвычайнае разьвіцьцё парканістае тканкі, прычым або павялічваецца лік каморкавых слаёў, або павялічваецца вышыня каморак, абоназіраецца і тое і другое разам“. (Стар. 162) Заленскі ў сваёй працы па вывучэньні анатомічных элемэнтаў лісьцяў розных паверхаў кажа, што „лісьці, якія сядзяць вышэй, адрозьніваюцца больш ксераморфнай будовай у параўнаньні з тымі, што сядзяць ніжэй, і ў той самы час у вышэйшага ліста больш типова выяўлена парканістая парэнхіма“. Максімаў (праца 1926 г.) сьцьвярджае, што ксэрафіты (апрача сукулентаў) адрозьніваюцца большай інтэнсыўнасьцю асыміляцыі; болшай жа інтэнсыўнасьцю асыміляцыі адрозьніваецца парканістая парэнхіма з большай слупкаватасьцю сваіх каморак, лісьці з больш тыпова разьвітаю парканістаю тканкаю.

Сярэднія гатункі маюць парканістую парэнхіму са слупкаватасьцю сярэдняй паміж раньнімі і позьнімі гатункамі. Яны ўтвараюць па гэтай адзнацы паасобныя падгрупы, толькі адзін Кругэр займае выключнае становішча: ён мае парканістую парэнхіму з каморкамі найменш слупкаватымі, чымся ўсе дасьледаваныя намі гатункі. Сярэдняе арытмэтычнае стасунку дыямэтраў каморкі парканістае парэнхімы ў гэтага гатунку—2,44. Ён па гэтай адзнацы ня толькі адыходзіць ад сярэдніх, але нават выпераджае позьнія гатункі.

З іншых гатункаў Мэркэр і Імпэратар можна аднесьці да падгрупы сярэдня-позьніх, паводзіны Царскага ня вызначаны.

Па гэтай адзнацы гатункі можна зьмясьціць у наступны рад: Раньні-ружовы, Каралеўскі раньні, Царскі, Імпэратар, Мэркэр, Вольтман, Зьніч і Кругэр.

№ 8.

**Параўнальная таўшчыня губкаватае тканкі ліста.**

| Абазначэньне гатунку | Назва гатунку | M. | m. | К пры параўнаньні з | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | I | II | III | IV | V | VI | VII | VIII |
| I | Ран. руж. . | 23,8 | ±1,47 | — | у м. | 3 | Па-зам. | Па-зам. | 2,9 | 2,7 | 2,4 |
| II | Кар. ран. . | 22 | ±2,08 | — | — | у м. | 3 | 3,5 | у м. | 2 | 1,5 |
| III | Царск. . . | 18,3 | ±1,12 | — | — | — | у м. | 2,8 | „ | у м. | у м. |
| IV | Круг . . . | 15 | ±1,15 | — | — | — | — | у м. | 3,4 | „ | „ |
| V | Мэркэр . . | 13,3 | ±1,37 | — | — | — | — | — | 4 | 2,4 | „ |
| VI | Імпэр. . . | 19,3 | ±0,17 | — | — | — | — | — | — | у м. | „ |
| VII | Зьніч . . | 18,9 | ±1,3 | — | — | — | — | — | — | — | „ |
| VIII | Вольтман . | 17,8 | ±1,99 | — | — | — | — | — | — | — | — |

Увага: Адное дзяленьне раўно 3,1 μ.

**Губкаватая парэнхіма.** Гэтая табліца паказвае, што розьніца ў таўшчыні губкаватае парэнхімы паміж раньнімі і позьнімі гатункамі знаходзіцца ў межах памылкі досьледу. Толькі Кругэр адрозьніваецца як быццам крыху менш разьвітаю губкаватаю парэнхімай і то не ад усіх гатункаў. На гэтым мы і канчаем параўнальную анатомію ліста [1]).

Што датычыцца сталёну, то пэўных вынікаў пры параўнаньні розных тканак яго мы не атрымалі (Гл. табл. № 22). Гэта ня кажа яшчэ аб тым, што няма розьніцы ў анатомічнай будове сталёну розных гатункаў бульбы. Магчыма што мы не атрымалі вынікаў з тае прычыны, што пры нашай пастаноўцы досьледу мы не маглі вызначыць аднастайнасьці частак сталёну розных гатункаў па ўзросту, што неабходна для атрыманьня параўнальных дадзеных. Што кінулася ў вочы пры вывучэньні сталёну розных гатункаў—гэта неаднолькавая колькасьць у ім тлустых кропель. Па гэтай адзнацы выдзеліўся адзін гатунак „Каралеўскі раньні“. У той час, як на ўсіх іншых гатунках тлустасьць знаходзіцца ў вельмі невялікай колькасьці і невялікімі кропелькамі, у гэтым гатунку, Каралеўскім раньнім, яна знаходзіцца ў куды большай колькасьці і буйнымі кроплямі. Іхняе аблюбаванае месца ў межах аднаго зрэзу па склерэнхімнаму пярсьцёнку, як паміж судз.-валакнянымі вязкамі, гэтак і ў самой судз.-валакнянай вязцы.

[1]) Увага: Мы хаця і рабілі яшчэ вымярэньне колькасьці прадушынак на пэўнай плошчы ліста, але пэўных вынікаў не атрымалі, бо бяручы пробы не разьбілі ліста на паверхі. Гэтае пытаньне мы лічым неабходным паставіць як паасобную тэму, якая ў сваю чаргу патрабуе доўгага часу на распрацоўку.

